
Асамблея НДА Беларусі

www.belngo.info

часопіс грамадзкіх актывістаў

студзень 2012


# Асамблея

УПЯРОД

# крызісу няма

# ЗЬМЕСТ




# Дзень сурка

Тэма крызісу, у пастку якога трапіла маладая і квітнеючая беларуская дзяржава, надзвычай зашмальцаваная. У сеціве і на старонках папяровых СМІ штодня зьяўляюцца публікацыі па праблематыцы глябальнай эканамічнай рэцэсіі, якая рыкашэтам ударыла і па нас. Настроі матэрыялаў істотна вар'юючца ў залежнасьці ад палітычных поглядаў аўтараў: ад суіцыдальна-пэсымістычных (нам усім гамон!) да ружова-наіўных (крызіс – новы шанец). Падаецца, абодва падыходы збольшага прадыктаваныя лёгікай мэтазгоднасьці: што ад аўтараў чакае чытач, тое і адлюстроўваецца ў аналітыцы.

У дадзеным нумары часопіса "Асамблея" мы паспрабуем разьвянчаць міт гаспадарчага крызісу як зьявы, што нібыта паспрыяе дэмакратычнай трансфармацыі рэжыму.

"Гарачая восень", нягледзячы на шматлікія прароцтвы і ляманты, не наступіла. Улетку адбываліся рэзанансныя акцыі аўтамабілістаў "Стоп-бэнзін", на зьмену якім прыйшлі маўклівыя рэвалюцыі. Гэтыя ініцыятывы хоць і напалохалі ўлады, але практычна не зьмянілі ўстойлівай грамадзка-палітычнай канстэляцыі.

Пэўная частка апазыцыйна настроеных грамадзянаў ускладала спадзяваньні на "Народныя сходы", якія мелі даць выхад энэргіі незадаволеных матэрыяльна-побытавымі ўмовамі пражываньня суайчыньнікаў. Аднак нічога практычна не зьмянілася ад моманту ікс. Вось ужо 17 гадоў краіна прачынаецца і засынае ў "Дзень сурка". Пастаянна і няўхільна пагаршаюцца варункі дзейнасьці НДА, разнастайных рухаў і проста неабыякавых людзей, але гэта абсалютна прадказальна.

Аўтарскаму калектыву часопіса здаецца, што многія палітыкі і грамадзкія дзеячы ўскладаюць занадта шмат беспадстаўных надзеяў на тое, што пагаршэньне матэрыяльнага дабрабыту раптоўна абудзіць грамадзтва ад апатыі. Грамадзкія актывісты – таксама людзі. Яны ня ў меншай ступені заклапочаныя праблемай выжываньня ў няпростай эканамічнай сытуацыі. Разам з тым, з надыходам крызісу беларусы трошкі працьверазелі: пачалі болей думаць, што іхны ўласны дабрабыт залежыць ня столькі ад эфэмэрнай дзяржавы, колькі ад іх саміх. ■

**Мікола Бянько , Юля Сівец**




# “Новыя мэдыі для НГА”

У бібліятэцы сайта “Трэці сэктар” зьявіўся дапаможнік па новых мэдыях. Новае выданьне стала вынікам беларуска-нямецкага праекту, актыўны ўдзел у якім бралі і сябры арганізацыі “Цэнтар “Трэці Сэктар”.

Цягам двух гадоў прадстаўнікі 10 беларускіх арганізацыяў вучыліся здымаць відэа, працаваць з праграмнымі рэсурсамі Google, візуалізаваць рознага кшталту дадзеныя, выкарыстоўваць сацыяльныя сеткі і іншыя магчымасьці новых мэдыяў, з дапамогай якіх можна зрабіць грамадзкую дзейнасьць больш эфэктыўнай і вядомай.

Дапаможнік «Новыя мэдыі для НГА» выдадзены сябрамі нямецкай арганізацыі «Ініцыятыва Mittel- und Osteurope e.V, паведамляе http://3sektar.by/

■



дадзены праект многія называюць балаганным

# Чыноўнікі ня хочуць абмяркоўваць “Менскае замчышча”

Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры зьвярнулася ў Менгарвыканкам з прапановай вынасу на грамадзкае абмеркаваньне праекту, распрацаванага калектывам КУП “Менскпраект” “Менскае замчышча” , паведамляе http://ngo.by.

“Нежаданьне праводзіць грамадзкае абмеркаваньне мы расцэньваем як спробу гарадзкой адміністрацыі рэалізаваць праект, што мае прыкметы парушэньня арт. 1, 3, 17, 20, 21 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб барацьбе з карупцыяй”, -- гаворыцца ў тэксьце звароту..

# 5 сьнежня адзначаўся Сусьветны дзень валянтэра




Напярэдадні сьвята, 3-4 сьнежня, на базе Гарадзенскага ўнівэрсытэта імя Янкі Купалы прайшоў гарадзкі Фэстываль валянтэраў. Першым мерапрыемствам фэсту стаў сэмінар “Павышэньне сацыяльнай актыўнасьці жыхароў Гародні праз разьвіцьцё валянтэрскага руху”. Затым цягам двух дзён для гарадзенскіх валянтэраў ладзіліся сэмінары і майстар-клясы.

Падчас майстар-клясы па ацаляльнай магіі праводзілася навучаньне для валянтэраў, якія будуць працаваць зь дзецьмі з псыхафізычнымі асаблівасьцямі.

“Нашыя заняткі не ўспрымаюцца дзецьмі як прымусовыя, тэрапэўтычныя. Яны з радасьцю супрацоўнічаюць з намі, успрымаюць усё гульню і падчас яе разьвіваюцца”, – падкрэсьліў Віталь Паўлаградзкі, трэнэр майстар-клясы і кіраўнік праграмы “Ацаляльная магія”.

Праграма была распрацаваная ў ЗША знакамітымі ілюзіяністамі Сіндзі і Кэвінам Спэнсэрамі. У яе межах валянтэры навучаюць людзей з псыхафізычнымі асаблівасьцямі простым фокусам, якія ўплываюць на разьвіцьцё памяці, канцэнтрацыі і пэўных мышцаў. Займацца пачынаюць зь дзецьмі ад 5 гадоў. Абмежаваньне адно: у навучэнца павінная працаваць хаця б адна рука. Але гэты прынцып ня жорсткі, як кажа трэнэр: пры падтрымцы іншых фокусам можа навучыцца нават чалавек, у якога працуюць толькі два пальцы.

Весьці занятак Віталю Паўлаградзкаму дапамагала Юля Рыжкоўская. Трэнэры прадстаўлялі “Беларускую асацыяцыю клюбаў ЮНЭСКА”. На майстар-клясу сабралася 14 чалавек, у асноўным навучэнцы і выпускнікі факультэта псыхалёгіі ГрДзУ. Пераважная большасьць зь іх мае некалькі гадоў досведу валянтэрскай працы зь дзецьмі, паведамляе http://t-styl.info.

■




# Рэнэсанс прызямліўся ў Гародні

Сярэднявечнай гісторыі Гародні была прысьвечаная лекцыя “Рэнэсансная Гародня”, прачытаная для слухачоў Унівэрсытэта Залатога веку (далей — УЗВ) доктарам гістарычных навук, прафэсарам Алесем Краўцэвічам.

Некалькі чалавек запісвалі цікавую інфармацыю за лектарам, нібыта ўспомніўшы школьныя гады. Алесь Краўцэвіч расказаў пра цікавыя факты з гісторыі горада, падзяліўся сваім археалягічным досьведам, паказаў цікавую прэзэнтацыю з выявамі плянаў Гародні і рэштках некаторых гістарычных помнікаў. Гэта быў ужо другі выступ прафэсара перад навучэнцамі ЎЗВ. Тады навуковец расказваў пра мінулае Гародні ў XII—XVI стст.

Унівэрсытэт Залатога Веку" -- гэта праект, адрасаваны актыўным сталым гарадзенкам і гарадзенцам. Удзел у ім могуць браць актыўныя сталыя людзі ў пэнсійным ці перадпэнсійным узросьце.

Першы ўнівэрсытэт для сталых людзей пачаў працаваць у 1973 г. у Тулузе (Францыя). У 1975 г. Унівэрсытэт Трэцяга Веку пачаў дзейнічаць у Варшаве. У сакавіку 2010 г. пры падтрымцы партнэраў з «Унівэрсытэту Трэцяга Веку» пры Ўроцлаўскім унівэрсытэце (Польшча) і «Дому сустрэч імя Ангелуса Сілезіюса» (Уроцлаў, Польшча) быў арганізаваны навучальны візыт у Польшчу, у межах якога ініцыятыўная група па стварэньні УЗВ мела магчымасьць на практыцы пазнаёміцца з тым, як арганізаваная праца па актывізацыі сталых людзей у суседняй краіне.

Першы занятак у межах гарадзенскага Ўнівэрсытэту Залатога Веку быў праведзены 29 красавіка 2010 г. Восеньню 2011 года адбыўся набор слухачоў на 2011—2012 гг., паведамляе http://uzv-hrodna.blogspot.com/ ■

# Адна біяпрыбіральня на 10 тысячаў гамельчукоў

1100 чалавек падпісаліся пад скаргай “Надакучыла спраўляць патрэбу ў кустах!” У Гомелі пасьпяхова завершаны першы этап акцыі "Нашага Дому" "Надакучыла спраўляць патрэбу ў кустах!" Праваабаронцы Тацьцяна Рапіцкая і Тацьцяна Тоўсьцік сабралі ў Навабеліцкім раёне пад калектыўнай скаргай больш за 1100 подпісаў гараджан і гасьцёў абласнога цэнтра.

Абураныя грамадзяне нагадалі Гомельскаму гарвыканкаму і Гомельскаму гарадзкому савету дэпутатаў аб тым, што ўздоўж галоўнай вуліцы аднаго з 4-х раёнаў – вул. Ільліча – працяглы час адсутнічае стацыянарны грамадзкі туалет. 5 біяпрыбіральняў, усталяваных у месцах масавага знаходжаньня грамадзян, ня могуць вырашыць санітарных і гігіенічных праблемаў, а таксама задаволіць натуральныя запатрабаваньні 50 тысячаў гамельчукоў.

Актывісты "Нашага Дому" – гамельчукі і госьці горада прапаноўваюць старшыню гарвыканкама Віктару Піліпцу і старшыню гарадзкога савета дэпутатаў Івану Барадзіньчыку вылучыць і зацьвердзіць адно зь месцаў для цёплага туалета – у зоне адпачынку "Пруды" і (або) ля кінатэатра "Мір".

Генэральны дырэктар Гомельскага гарадзкога ЖКГ Віктар Саладуха на нядаўняй прэс-канфэрэнцыі, якая адбылася ў гарвыканкаме, усё ж прызнаў, што стацыянарныя туалеты ў Гомелі патрэбныя ў Мэдгарадку, на праспэкце Леніна і ў скверы ля кінатэатра "Мір". Ля кінатэатра "Мір" грамадзкая прыбіральня разьмяшчалася яшчэ некалькі гадоў таму, але была зьнесеная. Акцыя "Надакучыла спраўляць патрэбу ў кустах!" у Навабеліцкім раёне працягваецца, паведамляе https://nash-dom.info. ■



# Турцыя: працэс распрацоўкі новай канстытуцыі

Працэс распрацоўкі новай канстытуцыі Турцыі дае шмат магчымасьцяў для абароны свабоды рэлігіі або веравызнаньня. Але застаюцца пытаньні без адказу: ці будзе Старшынства па справах рэлігіяў пры прэм'ер-міністры па-ранейшаму вызначацца як канстытуцыйны орган? Ці будзе
ў новай канстытуцыі падтрымліваецца атэізм? Цяперашнія праблемы, якія вынікаюць з заканадаўства і практыкі, паказваюць, што калі гэтыя пытаньні ня будуць вырашаныя, то істотнага паляпшэньня канстытуцыйнай абароны свабоды рэлігіі або веравызнаньня для ўсіх можна і не дасягнуць, паведамляе http://www.forum18.org/Archive.php?article_id=1641. ■

# Акцыя салідарнасьці з палітзьняволенымі ў Кіеве



11 сьнежня ў цэнтры Кіева ў межах тыдня салідарнасьці зь Беларусьсю адбылася моладзевая акцыя салідарнасьці зь беларускімі палітвязьнямі.

З Уладзімірскай горкі былі запушчаныя ў неба 11 паветраных ліхтароў з партрэтамі беларускіх палітзьняволеных і подпісам "Свабоду!". За акцыяй назіралі сотні жыхароў горада.

Затым удзельнікі акцыі прайшлі да цэнтральнага паштамта Кіева, адкуль даслалі паштоўкі тым беларусам, хто знаходзіцца сёньня за кратамі праз свае перакананьні. ■




Удзельнікі антыўрадавай дэманстрацыі на плошчы Тахрыр падчас пятнічнай малітвы. 4 лютага 2011 года

# Эгіпецкай рэвалюцыі няма канца

Найвышэйшая рада ўзброеных сіл Эгіпта надзяліла новага прэм'ер-міністра Камаля аль-Ганзуры прэзыдэнцкімі паўнамоцтвамі, за выключэньнем пытаньняў што да Ўзброеных сіл і судовых органаў улады. Сфармаваны Камалем аль-Ганзуры новы ўрад прыведзены да прысягі. У кабінэце 16 новых міністраў. Галоўная інтрыга доўга захоўвалася вакол прызначэньня міністра ўнутраных справаў. Рэч у тым, што пратэстоўцы патрабавалі, каб ён ня быў з сыстэмы МУС. У выніку ведамст-ва ўзначаліць Мухамэд Ібрагім Юсэф, былы кіраўнік службы бясьпекі правінцыі Гіза. Урад Камаля аль-Ганзуры, які быў прызначаны прэм'ерам 25 лістапада, закліканы засяродзіць намаганьні на аднаўленьні бясьпекі ў краіне і паляпшэньні эканамічнай сытуацыі, паведамляюць euronews.net/2011/12/07/egyptian-pm-appoints-new-cabinet/, vesti.ru

# Славацкія юрысты кансультуюць НКА

Больш за 60 славацкіх юрыстаў аказваюць бясплатную дапамогу некамэрцыйным арга-нізацыям у рамках праграмы Pro Bono Advocacy. У асноўным праўнікі бясплатна кансультуюць перад падпісаньнем дамоваў, дапамагаюць у вырашэнні юрыдычных праблемаў.

Pro Bono Advocacy – ініцыятыва, скіраваная на прадстаўленьне бясплатных юрыдычных паслугаў славацкім некамэрцыйным арганізацыям. Цяпер больш за 68 юрыстаў і фірмаў супрацоўнічаюць з ініцыятывай. Pro Bono Advocacy каардынуецца Pontis Foundation і PILnet, паведамляюць www.nadaciapontis.sk/en/16878. ■




Михаил Воскресенский / Reuters

**Паліцэйскія затрымліваюць удзельніка акцыі пратэста супраць фальсыфікацыі вынікаў выбараў у Дзярждуму і палітыкі расейскіх уладаў. 6 сьнежня 2011 года**

# Пратэст сытых і адукаваных

Працяглыя калядныя вакацыі не мінімізуюць пратэстныя настроі расейцаў. Сацыёлягі параўналі партрэты ўдзельнікаў масавых мітынгаў на Балотнай плошчы і праспэкце Сахарава ў Маскве і прыйшлі да высновы, што кола палітычна актыўных расейцаў істотна пашырылася.

"Левада-Центр" прадставіў рэзультаты дасьледаваньня ўдзельнікаў найбуйнейшых за апошнія 20 гадоў акцый у расейскай сталіцы. Паводле кіраўніка адзьдзела сацыяльна-палітычных дасьледаваньняў "Левада-Центра" Сяргея Дубініна, "10 сьнежня на Балотнай плошчы сабралася збольшага моладзь, а людзей старэйшага пакаленьня, якія падтрымліваюць дэмакратычны выбар, было ня так шмат". "На акцыі 24 сьнежня, якая прайшла на праспэкце Сахарава, зьмясьцілася куды больш разнастайная публіка. Там сабраліся самыя разнастайныя групы насельніцтва, амаль раўна-мерна былі прадстаўленыя маладыя людзі, людзі сярэдняга ўзросту і прадстаўнікі старэйшага пакаленьня", -- распавёў сацыёляг. На праспэкце Сахарава, паводле ягоных дадзеных, былі людзі самых розных статусаў, матэрыяльнага становішча і роду дзейнасьці, хаця ў цэлым пераважвала інтэлігенцыя.

На думку дырэктара Інстытута сацыяльнай палітыкі і сацыяльна-эканамічных праграмаў Вышэйшай школы эканомікі Сяргея Сьмірнова, "на вуліцу выйшлі людзі такога ўзроўня прыбыткаў і прафэсійнай самарэалізацыі, пры якім ужо пачынаеш думаць ня толькі пра кавалак хлеба".

**Даведка часопіса "Асамблея":** Масавыя акцыі пратэсту ў Маскве прайшлі на знак нязгоды грамадзянаў з афіцыйнымі вынікамі выбараў у Дзярждуму. Амаль палова дэпутацкіх мандатаў належыць непапулярнай партыі ўлады "Адзіная Расея". Згодна падлікам незалежных назіральнікаў, апошні мітынг, які адбыўся на праспэкце Сахарава 24 сьнежня 2011 году, сабраў каля 75 тысячаў чалавек. ■

**Матэрыял падрыхтаваны паводле www.mn.ru**

# У Генэральнага сакратара ААН Пан Гі Муна – другі тэрмін



http://ria.ru/

Заступаючы на пасаду Генэральнага сакратара ААН на другі тэрмін, Пан Гі Мун паабяцаў аказваць садзеяньне прасоўваньню свабоды і дэмакратыі ў краінах, якія перажылі арабскую вясну.

"Мы сталі сьведкамі праяўленьня ўлады народа, а таксама паглыбленьня глябалізацыі. Мы бачылі вельмі шмат маргіналізаваных людзей, прыгнечаных людзей, якія імкнуцца да дэмакратыі, абароны свайго гонару і правоў чалавека. Мы нясем адказнасьць за тое, каб дапамагчы ім у пэрыяд пераходу да дэмакратыі", -- падкрэсьліў кіраўнік ААН.

Пан Гі Мун быў адзінагалосна пераабраны на другі тэрмін. Ён будзе знаходзіцца ля стырна Арганізацыі да 2016 года.

Кіраўнік ААН нагадаў пра свае пяць прыярытэтаў на бліжэйшыя пяць год: дасягненьне ўстойлівага разьвіцьця; папярэджаньне крызісаў; пабудова больш бясьпечнага сьвету; аказваньне дапамогі краінам у пераходны пэрыяд; умацаваньне гендэрнага равенства. ■

**Паводле http://www.un.org**




# Прадстаўнікі трэцяга сэктару абвясьцілі пра кампанію за вызваленьне Алеся Бяляцкага

Прысуд вядомаму праваабаронцу й грамадзкаму дзеячу, старшыню ПЦ “Вясна” Алесю Бяляцкаму выклікаў абурэньне й асуджэньне прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасьці Беларусі. З гэтай нагоды была прынятая адмысловая Заява з патрабаваньнем неадкладнага вызваленьня праваабаронцы й заклікам да калегаў, грамадзянаў Беларусі, прадстаўнікоў міжнароднай супольнасьці выступіць у падтрымку Бяляцкага й далучыцца да кампаніі за яго вызваленьне.

Заяву падпісалі 47 грамадзкіх арганізацыяў і ініцыятываў, у шэрагі якіх уваходзяць тысячы актывістаў па ўсёй Беларусі.

**Прэс-служба Асамблеі НДА**

# Няўрадавыя арганізацыі далі наказ новаму міністру юстыцыі

У першыя дні новага 2012 года ў Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь быў накіраваны калектыўны зварот лідэраў вядучых няўрадавых арганізацыяў краіны. У звароце прадстаўнікі грамадзянс-кай супольнасьці паведамілі пра магчымыя шляхі паляпшэньня прававых умоваў дзейнасьці грамадзкіх аб’яднаньняў краіны.

Зварот быў ініцыяваны Асамблеяй няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі й адрасаваны пэрсанальна новаму міністру юстыцыі Алегу Сьліжэўскаму, які быў прызначаны на пасаду у сьнежні мінулага года.

Ліст падпісалі кіраўнік РПГА “Беларускі Хельсінскі Камітэт” Алег Гулак, старшыня ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” Жанна Літвіна, кіраўнік Цэнтру “Супольнасьць” і старшыня Рабочай групы Асамблеі НДА Сяргей Мацкевіч, кіраўнік Цэнтру па правах чалавека Раіса Міхайлоўская й дырэктар Цэнтру прававой трансфармацыі Вольга Смалянка.

У лісьце зьвяртаецца ўвага новага міністра юстыцыі на тое, што цягам апошніх год міністэрства неаднаразова заяўляла пра магчымасьць скасаваньня артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса, які карае за дзейнасьць незарэгістраваных арганізацыяў. Таксама ўздымаюцца пытаньні грамадзкага кантролю за ўстановамі пенітэнцыярнай сыстэмы, у тым ліку ў сьвятле парадаў Камітэту ААН супраць катаваньняў, якія былі зробленыя па выніках разгляду чарговай пэрыядычнай справаздачы Рэспублікі Беларусь па выкананьні Канвэнцыі ААН супраць катаваньняў і іншых відаў жорсткага й бесчалавечнага абыходжаньня.



# Круглы стол

Асамблея НДА правяла круглы стол, у якім узялі ўдзел 17 прадстаўнікоў культурніцкіх арганізацый ды ініцыятываў.

Кіраўнік Выканаўчага бюро Асамблеі НДА Сяргей Лісічонак паведаміў аб магчымасьці супрацы грамадзкіх аб’яднаньняў, прыватных і калектыўных ініцыятываў:

– Для нас няважна, які юрыдычны статус мае арганізацыя альбо ініцыятыва і колькі ў яе сябраў. Галоўнае – напоўніцу выкарыстоўваць створаную Асамблеяй базу для эфэктыўнай камунікацыі. Таму разглядайце нашу арганізацыю як самую вялікую ў трэцім сэктары камунікацыйную пляцоўку.

# Прадстаўнікі грамадзянскай супольнасьці абмеркавалі пэрспэктывы разьвіцьця Форуму грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства як у Беларусі, так і на міжнародным узроўні




20 сьнежня ў Менску адбыўся круглы стол, прысьвечаны вынікам Форуму грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства, які прайшоў у Познані ў канцы лістапада. У дыскусіі ўзялі ўдзел 40 чалавек, якія прадстаўлялі дзясяткі розных арганізацыяў. Сярод актыўных удзельнікаў дыскусіі былі Вольга Стужынская ("Офіс за дэмакратычную Беларусь"), Уладзімер Мацкевіч ("ЭўраБеларусь"), Яраслаў Бекіш ("Зялёная Сетка"), Сяргей Лісічонак (Асамблея НДА) і іншыя.

Мерапрыемства было прысьвечанае ня толькі падсумоўваньню вынікаў Форуму грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства і ўдзелу беларускай дэлегацыі ў ім. Сярод іншых тэмаў удзельнікі круглага стала абмеркавалі канцэптуальныя моманты ў разуменьні грамадзянскай супольнасьці Беларусі, Нацыянальнай плятформы Форуму і наступных крокаў, якія чакаюць грамадзянскую супольнасьць краіны.

Прадстаўнікі недзяржаўных арганізацыяў абмяркоўвалі дасягненьні й рашэньні, прынятыя на Форуме грамадзянскай супольнасьці. Удзельнікі круглага стала ў Менску адзначылі неабходнасьць рэгістрацыі Сакратарыяту Форуму ў якасьці юрыдычнай асобы, што мае палегчыць дзейнасьць і функцыянаваньне самога Форуму.

Паводле словаў Сяргея Лісічонка, нацыянальнага каардынатара па Беларусі Форуму грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства, "на круглым стале згадвалася важнае рашэньне Форуму аб стварэньні новай тэматычнай плятформы па так званым "сацыяльным дыялёгу". Адзначалася, што арганізацыі, якія прадстаўляюць працадаўцаў і наёмных працаўнікоў, змогуць у межах Форуму грамадзянскай супольнасьці працягваць займацца пытаньнямі сацыяльнага дыялёгу.

**Прэс-служба Асамблеі НДА**

■

# Няўрадавы сэктар feat грамадзянская супольнасьць



***а тле эканамічнай крызы, пад сталым рэпрэсіўным ціскам сэктар навучыўся выжываць і захоўваць сябе. Парадаксальна (ці лягічна?), але неспрыяльныя ўмовы робяцца тым каталізатарам, які рухае думку і крэатыў грамадзянскай супольнасьці.***

Пятнаццаты год запар Амэрыканская агенцыя па міжнародным разьвіцьці (USAID) вызначае Індэкс устойлівасьці няўрадавых арганізацый. Дасьледаваньне ахоплівае каля 30 краінаў эўрапейскага і эўраазіяцкага рэгіёнаў, у тым ліку Беларусь. Індэкс устойлівасьці ў кожнай краіне вызначаецца на падставе вымярэньня шэрагу парамэтраў – прававы асяродак, фінансавая ўстойлівасьць, публічны імідж, інфраструктура і г.д. Індэкс устойлівасьці ў кожнай краіне вымяраюць мясцовыя экспэрты – кіраўнікі няўрадавых арганізацыяў, кааліцыяў, аналітычных цэнтраў і г.д. То бок трэці сэктар ацэньвае сам сябе.

Беларусь традыцыйна дае сабе адну з самых нізкіх адзнак у рэгіёне, што, бадай, і ня трэба тлумачыць. Умовы існаваньня няўрадавага сэктару гранічна неспрыяльныя – складаная, часта непразрыстая працэдура рэгістрацыі; наяўнасьць крымінальнага артыкула за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі; ускладненая працэдура атрыманьня замежнага фінансаваньня пры адсутнасьці распрацаваных мэханізмаў мясцовай дабрачыннасьці; забарона прадпрымальніцкай дзейнасьці для грамадзкіх аб'яднаньняў; розная кшталту адміністрацыйныя перашкоды і г.д.



**Юнэля Сальнікава, магістар філязофіі**

### Новыя выклікі

Сёлета дасьледаваньне па Індэксе ўстойлівасьці ўжо было праведзенае. Што зьмянілася ў сэктары за апошні год?

2011 год, падаецца, асабліва мусіў "спрыяць" таму, каб Індэкс устойлівасьці па Беларусі зьнізіўся яшчэ на некалькі пунктаў. Вызначальнай падзеяй, якая ўплывала на дынаміку сэктару, відавочна, сталася Плошча 19 сьнежня 2010 года. Ад гэтай даты лібэралізацыя, якая пачынала ажыўляць грамадзянскую супольнасьць, зьмянілася жорсткімі непрыхаванымі рэпрэсіямі – допыты, ператрусы, затрыманьні, арышты ішлі на сотні. Асабліва пацярпелі праваабарончыя арганізацыі, незалежная журналістыка ды адвакатура.

Стварэньне прэцэдэнту з арыштам і турэмным зьняволеньнем кіраўніка праваабарончага цэнтру "Вясна" Алеся Бяляцкага было скіраванае на застрашваньне ўсяго сэктару. Відавочна, з гэтай жа мэтай – пры поўным ігнараваньні думкі грамадзкасьці – у канцы года былі прынятыя папраўкі ў заканадаўства, якія пагоршылі жыцьцё няўрадавых інстытуцыяў: грамадзкіх арганізацыяў, палітычных партыяў, асобных актывістаў.

Пры гэтым афіцыйная статыстыка не адлюстроўвае рэальнага стану сэктару. Пачынаючы ад 2003-га штогод стабільна рэгіструецца прыкладна 100 новых грамадзкіх арганізацыяў. 2011 год не стаўся выключэньнем: у кастрычніку Міністэрства юстыцыі паведамляла пра 85 новых арганізацыяў. Праўда, калі паглядзець на тэматычную скіраванасьць паўсталых аб'яднаньняў, пераважная іх большасьць знаходзіцца ў катэгорыі "спорт, здароўе і турызм". Спартовая нацыя!

### Разьвіцьцё насуперак

Мэтадалёгія Індэксу цікавая тым, што дае магчымасьць адсачыць ня толькі бягучы стан трэцяга сэктару, але й ягоную дынаміку.

Адметна, што трэці сэктар цягам апошніх трох гадоў ацэньвае свой стан як стабільны. Але не стабільна цяжкі, як можа падасца вонкаваму назіральніку. Словы “звыканьне”, “адаптаваньне” і нават “разьвіцьцё” больш дакладна адлюстроўваць сёньняшні стан няўрадавых інстытуцыяў. На тле эканамічнай крызы, пад сталым рэпрэсіўным ціскам сэктар навучыўся выжываць і захоўваць сябе. Парадаксальна (ці лягічна?), але неспрыяльныя ўмовы робяцца тым каталізатарам, які рухае думку і крэатыў грамадзянскай супольнасьці.

Калі аналізаваць сэктар ня з пункту гледжаньня варункаў існаваньня, а назапашанага патэнцыялу, то прагрэс выходзіць на паверхню.

Расьцярушанасьць сэктару замяняецца кансалідаванымі кампаніямі абароны супольных інтарэсаў. Немагчымасьць наўпроставага ўзьдзеяньня на органы ўлады знаходзіць сваё вырашэньне ва ўмацаваньні кантактаў з замежнымі структурамі, якія праз свае мэханізмы дапамагаюць беларусам уплываць на сытуацыю ўнутры краіны. Акцыі салідарнасьці па кампэнсацыі штрафаў ды дапамозе зьняволеным пазбаўляюць рэпрэсіўную машыну сродкаў ціску.

Асабіста для мяне аптымізм што да беларускага трэцяга сэктару ўзмацніўся – як ні дзіўна – прыкладам Амэрыкі. Да прыкладу, стан развою сацыяльных мэдыяў там сьведчыць пра тое, што ў Беларусі сацыяльныя актывісты робяць тое ж самае, а часам і з большай фантазіяй. Не пагаджаюся з думкай, што інтэрнэт-тэхналёгіі – фэйсбук, твітэр ды іншыя вынаходніцтвы апошніх гадоў – заганяюць грамадзянскую супольнасьць у онлайн-рэзэрвацыю. Для беларусаў сацыяльныя мэдыі -- гэта якраз-такі магчымасьць паўнавартасна выказвацца і дзейнічаць унутры краіны. Віртуальная прастора радыкальна пашырае рэгулярныя камунікацыі з рознымі катэгорыямі насельніцтва (па дадзеных Internet World Stats, да 50% беларусаў маюць доступ у інтэрнэт у той ці іншай ступені) і адпаведна спрыяе ўмацаваньню гарызантальных сувязяў, якія зьяўляюцца сэрцам грамадзянскага дзеяньня.

**Крыніца трываласьці**

У філязофіі ёсьць панятак “рызома”, які перакладаецца прыблізна як “карэньне”. Сваёй заблытанай разгалінаванай каранёвай сыстэмай рызома супрацьстаіць клясычным лінейным структурам. У рызомы няма ні пачатку, ні канца, ні адзінага цэнтру – яе складана зьнішчыць, бо яна ўсёпранікальная, не ўкладаецца ў падуладная кантролю.

Беларускі трэці сэктар дзейнічае паводле нормаў ды стандартаў. Але грамадзянская супольнасьць – гэта больш чым арганізацыі трэцяга сэктару; гэта ўся сукупнасьць сацыяльных стасункаў ды структураў, якая дазваляе грамадзянам свабодна сябе выяўляць. Немагчыма да канца зразумець, якім чынам дзейнічае гэтыя сыстэма: як і чаму ў розных месцах хаатычна паўстаюць ініцыятывы, што выклікае раптоўныя хвалі салідарнасьці. Менавіта рызаматычнасьць грамадзянскай супольнасьці сілкуе трэці сэктар ідэямі ды надае моцныя імпульсы да разьвіцьця і інавацыяў.

Вяртаючыся да Індэксу ўстойлівасьці няўрадавых арганізацый, можна прагназаваць, што яго адзнака не пагоршыцца і сёлета. Неспрыяльныя ўмовы звонку правакуюць трэці сэктар на пошукі сілы й матывацыі ў жывых, рухомых грамадзянскіх асяродках – і, бадай, гэтыя крыніцы, народжаныя ўнутры народа, невычарпальныя. ■




***Віртуальная прастора радыкальна пашырае рэгулярныя камунікацыі з рознымі катэгорыямі насельніцтва (па дадзеных Internet World Stats, да 50% беларусаў маюць доступ у інтэрнэт)***

# Як жывецца ў крызіс?



## Апытаньне грамадзкіх лідэраў

**Гаспадарчы крызіс паўплываў на актыўных грамадзян нашае краіны. Як вядома, падчас эканамічных катаклізмаў зьнікаюць ня толькі надзеі на прыстойнае існаваньне, але і даверлівыя стасункі паміж людзьмі. А паводле дадзеных Эўрапейскага банка рэканструкцыі і разьвіцьця, глябальны эканамічны крызіс зьнізіў узровень падтрымкі дэмакратыі ў краінах з пераходнай эканомікай на 10%. Часопіс "Асамблея" правёў апытаньне сярод рэгіянальных актывістаў. Ці заўважаюць яны прыкметы крызісу ў Беларусі? Ці плянуюць нейкія адмысловыя праекты ў сувязі зь ім? Як увогуле паўплываў гаспадарчы крызіс на фармаваньне каштоўнаснага стаўленьня да актывізма?**

### Валерый Сьляпухін, "Гавары праўду", Гомель:



За апошнія месяцы адбыўся вельмі значны рост цэнаў на харчовыя і нехарчовыя тавары, павялічыліся цэны на паліва і праезд, але заробкі практычна не зьмяніліся. Рост інфляцыі і павелічэньне ставак рэфінансаваньня сьведчаць пра тое, што эканоміка на дадзены момант працуе з дэфіцытам. Таксама вырас попыт на замежную валюту, якая ёсьць хоць нейкім гарантам стабільнасьці. Людзі пачалі часьцей абурацца, але на кухнях. Да актыўных дзеяньняў яны не гатовыя, таму што ёсьць яшчэ страх перад турмой, страх страціць рэшткі апошніх зьберажэньняў. Актыўнасьць у прадпрымальніцтве пераходзіць у памежныя рэгіёны. Але на наўпростае супрацьстаяньне ніхто не ідзе. Хіба што адзінкі, бо людзі імкнуцца выжыць, а не падужацца за сваё. Унутры маёй грамадзкай арганізацыі сытуацыя больш складаная. Але асноўная частка тых, хто быў актыўны на выбарах, цяпер займаецца здабычай сродкаў на хлеб надзённы, толькі часам беручы ўдзел у мерапрыемствах і працы арганізацыі. Але зь іншага боку, крызіс кансалідаваў людзей, даў нам глебу для працы і адкрыў вялікія гарызонты для заваяваньня даверу да арганізацыі, а таксама прыцягненьня новых людзей з актыўнай грамадзкай пазыцыяй. Праблемы, зьвязаныя з крызісам, сыстэмныя, таму спосабаў рашэньня і ўплываў на гэтыя праблемы ў нас, на жаль, няма -- гэта вотчына заможных прызначэнцаў. З нашага боку мы максымальна спрабуем данесьці да ўладных структураў праблемы, якія ёсьць у грамадзтве, і прапанаваць супольнае іх вырашэньне праз дыялёг даступнымі, легальнымі спосабамі. Так што ад нас залежыць толькі інфармаваньне ўлады і насельніцтва і ўзьняцьце вострых праблемаў. Мы кансультуемся з прафэсарамі і экспэртамі ў галінах права, эканомікі, ужо створаная грамадзкая прыёмная, дзе дае кансультацыі юрыст.

### Юры Глебік (прадпрымальнік, грамадзкі актывіст, Сьвіслач, Гарадзенская вобл.):

Крызіс выяў-ляецца ў тым, што дабрабыт людзей пагаршаецца. Так пабудаванае ў нас грамадзтва, ці, можа, яно ўжо прывыкла да таго, што ў лядоўні павінен ляжаць нейкі набор харчоў. Калі гэта зьнікае, у людзей зьяўляецца пачуцьцё незадаволенасьці. Але каб памяняць сваё жыцьцё, стаўленьне да жыцьця – такога ў людзей няма. Яны чакаюць, пакуль нехта за іх гэта зробіць, што хтосьці ім дапаможа. Псыхалёгія людзей засталася ўзору дваццацігадовай даўніны.У гэтым вінаватыя і сродкі масавай інфармацыі ці, як іх яшчэ называюць, сродкі масавай прапаганды, якія трымаюць людзей у стане "чаркі і шкваркі". Усім хочацца лепш жыць, але ня хочацца прыкладаць нейкія высілкі. Я думаю, што асабіста мне, каб выйсьці з крызісу, трэба сур'ёзна працаваць, каб трымацца на ўзроўні.

### Ільля Заранок (кааліцыя няўрадавых арганізацыяў, Горкі):

Праява крызісу - у тым, што грошай стала менш, цэны папаўзьлі ўгару; гэта кепска.



Усё падаражэла: сьвятло, арэнда памяшканьня, інтэрнэт, папера, картрыджы для друку – гэта адбіваецца на нас. І з гэтым нічога асабліва нельга зрабіць – застаецца толькі цярпець. Самае важнае ў такія крызісныя моманты – гэта салідарнасьць. Мы стараемся адно аднаму дапамагаць, спачуваць, стаяць у чэргах адно за аднаго і гэтак далей – так мы даем рады крызісу ў межах сваёй арганізацыі. Хацелася б адзначыць, што сацыяльнай дапамогай насельніцтву павінная займацца дзяржава. Нам жа на ўзроўні

арганізацыі дапамагаць неабароненым слаям насельніцтва цяжка. Мы робім што можам. Напрыклад, падчас правядзеньня "Дажынак" мы кансультавалі людзей, у якіх з заробкаў незаконна адлічалі грошы на гэтае мерапрыемства. Таксама з надыходам крызісу трохі больш апатыі ў людзей зьявілася, таму што актывісты занятыя не грамадзкай дзейнасьцю, а заглыбленыя ў нейкія сямейныя справы, думаюць, як выжыць у гэтых умовах. Людзі зрабіліся больш сьмелымі ня толькі ў межах арганізацыяў, пачалі разумець, што трэба адстойваць свае правы, больш адкрыта выказваць свае думкі: хтосьці крытыкуе, хтосьці абараняе дзейную сыстэму ў краіне. Гэта, можна сказаць, пазытыўны момант крызісу.

**Галіна Зыранава-Касьпяровіч, Інваліды-калясачнікі, в. Крывошын, Ляхавіцкі р-н:**

Фінансавы крызіс праяўляецца ва ўсіх сфэрах жыцьця. Ён, з аднаго боку, падштурхоўвае да актыўных дзеяньняў, а зь іншага прымушае моцна трымацца за тое, што ёсьць. Калі ёсьць магчымасьць, мы праяўляем нейкую актыўнасьць, а калі няма – то свая кашуля бліжэйшая да цела. Што да нашай арганізацыі, то мы займаемся асноўным відам дзейнасьці, на ўсё астатняе сілаў і часу бракуе. У грамадстве назіраецца нейкая новая зьява, але наўрад ці можна назваць яе дэпрэсіяй, гэта хутчэй канстатаваньне безвыходнасьці: яно ёсьць, але ня можа зьмяніцца, яно ўпарта ня хоча мяняцца ў іншы бок. Але ёсьць нейкая доля аптымізму, бо згадваюцца часы "купонаў", савецкія часы – неяк жа дажылі мы да сёньняшняга дня. Ёсьць адчуваньне, што ўсё гэта зьменіцца. Праўда, незразумела, у які бок, горшы ці лепшы. Бо існы стан рэчаў ня можа стаяць на адным месцы, гэта адназначна.

**Вітаўт Руднік, "Трэці сэктар", Горадня:**



Фінансавы крызіс цяпер цяжка не заўважыць: цэны памяняліся, дый людзі ўсё часьцей на гэта наракаюць. Што да грамадзкіх арганізацыяў, то іх крызіс за-крануў ня так цяжка, бо яны і так усе паслугі насельніцтву аказваюць альбо бясплатна, альбо за сымбалічныя грошы.

Зьмяншэньня колькасьці людзей, якія карыстаюцца гэтымі паслугамі, я не заўважаю. Хіба што стаўкі арэнднай платы для арганізацыяў, прывязаныя да валюты, падскочылі прыкладна ў два з паловай разу. Знаходзіць мільёны на арэнду і сотні тысячаў на аплату камунальных паслугаў стала цяжэй. У гэтым пляне крызіс, канечне, адчувальны.

Мы вырашаем гэтую праблему праз пошук людзей, здольных ахвяраваць на дзейнасьць арганізацыі, шукаем варыянты з арэндай меншых памяшканьняў, эканомім. Для людзей сталага веку, якія маюць малы дастатак і маюць патрэбу ў дапамозе, у нас рэалізуецца праект, які называецца "Унівэрсытэт Залатога Веку". У межах гэтага праекту для такіх людзей кожны тыдзень праводзяцца розныя кшталту мерапрыемствы. Мы зьбіраемся працягваць гэта далей.

З моладзьдзю, якая ходзіць да нас у "Школу маладога журналіста" і ў "Экастудыю", мы таксама зьбіраемся працаваць, бо гэта людзі таксама невялікага дастатку.

**Алена Станіслаўчык, Беларуская асацыяцыя сацыяльных работнікаў:**

Не магу сказаць, што крызіс вельмі моцна на нас паўплываў, бо мы працуем у асноўным з замежнымі партнэрамі. Адно што колькасьць замежных партнэраў у Беларусі паменшылася. Для людзей у нас існуе інфармацыйна-прававая падтрымка, мы стварылі базу дадзеных "Беларусь сацыяльная", ёсьць сайт гэтага праекту http://ru.belbsi.by (бюро сацыяльнай інфармацыі).

Па ўсёй Беларусі былі створаныя бюро пры тэрытарыяльных цэнтрах абслугоўваньня насельніцтва, якія на бясплатнай аснове аказваюць насельніцтву інфармацыйна-прававую падтрымку: інфармуюць пра правы, пра тое, у якую арганізацыю зьвярнуцца, каб атрымаць гуманітарную дапамогу.

**Алесь Дзергачоў, Дом правоў чалавека, Смаргонь:**



Фінансавы крызіс хутчэй стаўся не праблемай арганізацыяў, а праблемай дзяржавы. Праяўляецца ён у незадаволенасьці людзей, у зьяўленьні чэргаў у крамах.

А што да нашай арганізацыі, то яна як грошай ня мела, так і ня мае, таму што дзяржава стаіць убаку ад грамадзкіх аб'яднаньняў. Мы ад дзяржавы ніяк не залежым у фінансавым пляне.

Крызіс паспрыяў зьмяненьню сьветапогляду людзей з аднаго боку, а зь другога, людзям самім даводзіцца перажываць яго, нават за межамі арганізацыяў. Прававой абаронай грамадзянаў мы займаемся ўвесь час і зьбіраемся займацца надалей.

Крызіс не павінен уплываць на праваабарончую дзейнасьць. Дый трэба ж дапамагаць людзям.

■

**Апытвала Марына Драбышэўская**

# Антыкрызісная мапа




**Ірына Віданава**

А пошнім часам у інтэрнэце набіраюць папулярнасьць мапы як спосаб візуалізацыі кантэнту на сайце. Пададзеная ў такім выглядзе інфармацыя глядзіцца прывабна і нагляднa. НДА ўсё больш актыўна выкарыстоўваюць інтэрактыўныя мапы для прыцягненьня ўвагі шырокай грамадзкасьці да важных праблемаў, збору інфармацыі і актывізацыі грамадзянаў для іх вырашэньня. У Беларусі грамадзкія актывісты і СМІ таксама пачалі засвойваць электронны мапінг, асабліва ў час выбарчых кампаніяў, масавых акцый і крызісных сытуацый.

Пры дапамозе нескладанага embed-коду фактычна на любым сайце пры наяўнасьці адпаведных правоў можна бясплатна разьмясьціць мапу ад такіх папулярных рэсурсаў, як Google, Yandex, OpenStreetMap, Yahoo і іншых. Так, напрыклад, падчас маўклівых акцыяў пратэсту Радыё Свабода выкарыстоўвала мапу ад Google, на якой маркерамі былі пазначаныя гарады, дзе адбываліся акцыі1. Рэдагаваць такую мапу, ставіць на яе маркеры можна па рэгістрацыі на сайце правайдэра мапы (у выпадку Google гэта maps.google.com). Падрыхтаваўшы да публікацыі мапу, скапіюйце embed-код і ўстаўце на старонку на вашым сайце.

Ёсьць і больш гнуткія рашэньні выкарыстаньня мапаў у вэб-праграмаваньні, якія могуць дазволіць дынамічна адлюстроўваць зьмест сайта на інтэрактыўнай мапе. І для гэтага ня трэба быць праграмістам, разьбірацца ў PHP ці MySQL. Калі ваш сайт зроблены на адной з папулярных сыстэмаў кіраваньня кантэнтам (напрыклад, на Drupal, Wordpress, Joomla), існуюць модулі альбо плягіны, усталяваўшы і наладзіўшы якія, вы можаце візуалізаваць вашыя навіны на мапе. Больш дакладна пра гэтыя модулі можна даведацца на сайце той сыстэмы, якую вы выкарыстоўваеце. Але майце на ўвазе, што мапінг – гэта даволі складаны функцыянал, і не інтэрнэце. Найбольш папулярная і прыдатная для працы НДА сыстэма – Ушахідзі (Ushahidi, у перакладзе з суахілі -- сьведчаньне), плятформа, якая дазваляе зьбіраць паведамленьні з розных крыніцаў, аўтаматычна наносіць іх на мапу ў выглядзе кропак і сыстэматызаваць. Яе можна абсалютна бясплатна спампаваць з афіцыйнага сайта ushahidi.com і ўсталяваць на свой сэрвэр. Альбо можна атрымаць бясплатны хостынг з ужо ўсталяванай і адладжанай Ушахідзі на сайце crowdmap.com.

***www.crisisby.net – гэта інтэрактыўная пляцоўка для народнага маніторынгу крызісных зьяваў у Беларусі***



заўсёды інтэграваць мапу на свой сайт будзе лёгка. У такім выпадку вам можа спатрэбіцца дапамога прафэсіянала.

Нарэшце, існуюць гатовыя рашэньні для мапінгу інфармацыі ў

**Маніторынг крызісных зьяваў у Беларусі**

Ушахідзі выкарыстоўваецца ва ўсім сьвеце для маніторынгу крызісных падзеяў. Адной зь яе перавагаў зьяўляецца магчымасьць дасылаць паведамленьні

>CRISISBY



*myhorki Очереди в Евроопте задрали. Такое впечатление, что люди готовы задушить друг друга из-за копейки, из-за скидки. #horki #crisisby #twiby*




*westki_info Беларускі #crisisby даў магчымасць зарабіць літоўцам*



*ljoksa: Белорусский алигарх Тапузидис инвестирует в Солигорск. Вот. #salihorsk #electby #crisisby vk.cc/vT3d9*



*minskmetro RT @ regionby: В Микашевичах сотни работников “Гранита” выходят из официального профсоюза j.mp/vBzDn7 #belarus #electby #crisisby*




праз SMS, што зрабіла Ўшахідзі папулярнай плятформай у тым ліку ў тых краінах, дзе далёка не ва ўсіх ёсьць доступ да інтэрнэту. Напрыклад, у Расіі яе пасьпяхова выкарыстоўвалі для фіксацыі лясных пажараў (Russian-fires.ru), а ў Кеніі (радзіме гэтай плятформы) -- для маніторынгу постэлектаральнага гвалту. У Беларусі першым сайтам з выкарыстаньнем сыстэмы Ўшахідзі быў Electby, які прапанаваў беларускім грамадзянам паведамляць пра заўважаныя імі парушэньні выбарчага заканадаўства падчас выбараў у сьнежні 2010 г.

У пэрыяд з 13 па 19 сьнежня 2010 г. на плятформу грамадзянскага маніторынгу выбараў www.electby.org паступіла больш за 615 паведамленьняў ад выбарцаў і грамадзянаў з усёй Беларусі. За тыдзень на Electby прыйшло больш за 17 500 наведнікаў і было прагледжана каля 70 000 старонак. У дзень выбараў прыйшло 120 паведамленьняў пра парушэньні (большасьць зь іх была дасланая праз SMS), на сайце было каля 8 000 наведнікаў і больш за 19 000 праглядаў старонак. Electby.org мае аднавіць сваю працу і падчас парлямэнцкіх выбараў 2012 года.

У канцы кастрычніка ў байнэце зьявіўся новы рэсурс, які працуе на плятформе Ўшахідзі. Сайт www.crisisby.net – гэта інтэрактыўная пляцоўка для народнага маніторынгу крызісных зьяваў у Беларусі. Даслаць паведамленьне, пакінуць спасылку на тэкст, фота ці відэа можа кожны. Паведамленьні зьяўляюцца ў выглядзе кропак на мапе. Працуе таксама мабільная вэрсія Crisisby.net. Сайт аўтаматычна пераключыцца на яе, калі вы зойдзеце на crisisby.net з мабільнага тэлефона.

У адрозьненьні ад навінавых рэсурсаў, у Crisisby няма рэдактараў, а інфармацыя паступае непасрэдна ад грамадзянаў. У адрозьненьне ад сацыяльных сетак, на Crisisby не патрабуецца рэгістрацыя, а новыя паведамленьні фіксуюцца на інтэрактыўнай мапе, сыстэматызуюцца па катэгорыях і лёгка знаходзяцца па даце ці месцы.

У першыя тры дні працы больш за 10 тысяч чалавек наведалі Crisisby. За першы месяц працы на сайт было даслана больш за 200 паведамленьняў ад грамадзянаў з усіх рэгіёнаў Беларусі. Пераважна людзі пішуць пра падвышэньне цэнаў на прадукты і паслугі, дэфіцыт на розныя тавары, малыя заробкі, пошук працы ды лепшага жыцьця за мяжой. Многія не баяцца пакідаць свае імёны і зваротныя кантакты. Значна менш паведамленьняў датычыць вулічных акцый і страйкаў. Відаць, градус незадаволенасьці яшчэ не настолькі высокі. А вось катэгорыя “Сьмеху варта” карыстаецца вялікай папулярнасьцю. Як заўжды, гумар і іронія дапамагаюць у складаных сытуацыях.

**(Працяг - у наступным нумары)** ■

**>CRISISBY**

*saligorsk_org Белкалий будут доить и дальше #crisisby vk.cc/vORFc*



*zaranok Во сколько в Горках Новый год стоит: horki.info/news/1/1895.ht... #crisisby*



*Crunch66 Здаецца, што складана знайсці пазітыў у мінулым годзе для нашай краіны і яе жыхароў. Але ён ёсць! bit.ly/vrhut6 #crisisby*





*Ірына*
*Заплаціла за яйкі амаль 14 тысяч! Паглядзела на мапу "Народнага барометру": за тры тыдні падаражэлі амаль на 5 тысяч!!!*




Фота: ... euroradio.fm, www.nv-online.info, gazetaby.com, iq.lt, news.tut.by, www.profi-forex.org, www.russian.rfi.fr

# НДА і крызіс

**Цэнтрам аналітычных ініцыятываў “Лібэральнага клюба” было праведзенае дасьледаваньне з мэтай выяўленьня Індэксу эканамічнай адэкватнасьці Беларусі. Якімі атрымаліся вынікі дасьледаваньня і што яны азначаюць для грамадзянскай супольнасьці нашай краіны?**

**Яўген Прэйгерман**

Дасьледаваньне праводзілася ў пэрыяд з 1 студзеня – 1 кастрычніка 2011. Яго мэтай было вывучэньне эканамічных ідэяў і праграмаў усіх палітычных суб’ектаў у Беларусі і акрэсьленьне ступені адпаведнасьці гэтых ідэяў і праграмаў існай сытуацыі ў эканоміцы краіны. Дзеля гэтага Цэнтрам аналітычных ініцыятываў быў праведзены кантэнт-аналіз афіцыйных дакумэнтаў і заяваў усіх палітычных суб’ектаў краіны, то бок дзяржаўных інстытутаў, зарэгістраваных і незарэгістраваных палітычных партый, а таксама грамадзянскіх рухаў з выразнай палітычнай арыентацыяй. Выкарыстоўваліся выключна матэрыялы, разьмешчаныя ў інтэрнэце, таму што, у адрозьненьне ад звычайных СМІ, віртуальная пляцоўка ў роўнай ступені адкрытая для ўсіх: як дзяржавы, так і апазыцыі. Фактычна, дасьледаваньне мела паказаць, якое месца ў дзейнасьці палітычных суб’ектаў краіны займаюць пытаньні пошуку выйсьця з эканамічнага крызісу і наколькі добра прапрацаванымі зьяўляюцца іх антыкрызісныя прапановы.

Вынікам дасьледаваньня сталася вызначэньне Індэксу эканамічнай адэкватнасьці Беларусі. Гэты індэкс паказвае эканамічны ўзровень як асобных палітычных суб’ектаў, так і ўсёй беларускай палітычнай прасторы.

“Пераможцамі” індэксу сталі дзяржаўныя інстытуты і Аб’яднаная грамадзянская партыя. Дзіўна, але ў самы разгар эканамічнага крызісу ў Беларусі толькі гэтыя два суб’екты мелі нейкую антыкрызісную праграму. У астатніх яна проста адсутнічае. Больш за тое, большасьць палітычных партый і рухаў увогуле не зрабілі ніякіх зьмястоўных заяваў па эканамічнай тэматыцы за дзевяць крызісных месяцаў 2011 г.

А агульны Індэкс эканамічнай адэкватнасьці Беларусі склаў 7,15 са 155 магчымых. Гэта значыць, што з эканамічнага пункту гледжаньня нашая палітычная прастора адэкватныя толькі на 4,6%.

Пра што сьведчаць вынікі гэтага дасьледаваньня? Калі зыходзіць з таго, што палітычныя суб’екты -- прадстаўнікі грамадзтва, то, на жаль, трэба канстатаваць, што беларускае грамадзтва цалкам

эканамічна неадэкватнае.

Эканамічны складнік у беларускай публічнай палітыцы вельмі маленькі і вельмі няякасны. У большасьці выпадкаў за традыцыйнымі ідэалягічнымі штампамі як дзяржавы, так і апазыцыі хаваецца элемэнтарная некампэтэнтнасьць, у першую чаргу па эканамічных пытаньнях. Канечне, шмат у чым такое становішча можна патлумачыць аўтарытарнымі рэаліямі ў краіне. Зразумела, што калі няма ўмоваў для нармальнай палітычнай канкурэнцыі, няма цывілізаванай грамадзкай дыскусіі, а апанэнты ўлады перасьледуюцца, то цяжка чакаць ад апазыцыйных партый нейкіх дэталёва выпрацаваных праграмаў. Аднак хаця б што-небудзь больш-менш сыстэмнае і прафэсійнае...

Калі дзяржаўныя інстытуты, эканамічная палітыка якіх ёсьць прычынай крызісу, робяцца лідэрамі Індэксу эканамічнай адэкватнасьці, то відавочна, што з краінай нешта ня так.

**Значэньне Індэксу эканамічнай адэкватнасьці Беларусі для грамадзкіх арганізацый**

Што гэтыя сумныя высновы пра якасьць палітычнай прасторы ў краіне азначаюць для грамадзянскай супольнасьці Беларусі?

Па-першае, яны азначаюць, што такое слабае інтэлектуальнае забясьпечаньне грамадзка-палітычнага жыцьця -- сапраўдная пагроза для нацыянальнай бясьпекі. Калі гэтае становішча будзе захоўвацца, то Беларусь чакаюць дзесяцігодзьдзі сацыяльна-эканамічных узрушэньняў, незалежна ад таго, хто будзе знаходзіцца ва ўладзе. А гэта, натуральна, будзе надзвычай адмоўна адбівацца і на дзейнасьці большасьці недзяржаўных арганізацый, якія ня змогуць эфэктыўна працаваць ва ўмовах трывалага эканамічнага крызісу. Бо без нармальнага функцыянаваньня эканомікі ня можа быць нармальнага разьвіцьця і ўсіх іншых сэктараў грамадзкага жыцьця.

Па-другое, яны азначаюць, што грамадзкім арганізацыям самім неабходна тэрмінова і вельмі актыўна падключацца да выпраўленьня становішча. Гэта ў сёньняшніх беларускіх рэаліях, так бы мовіць, пэўны “грамадзянскі абавязак” трэцяга сэктару.

Для НКА аўтарытарная палітычная сыстэма ў краіне -- паводле вызначэньня меншая перашкода для прафэсійнай дзейнасьці, чым для палітычных партый. Узровень рызык, зьвязаных са штодзённай працай, усё ж такі ніжэйшы, чым у партый. Прынамсі калі не разглядаць праваабарончы сэктар. Таму было б карысна, калі б як мага большая колькасьць НКА магла спакойна і адпаведна сваёй кампэтэнцыі займацца паступовым прасоўваньнем эканамічнай экспэртызы ці прапалітычных партый з прапановамі арганізаваць грамадзкія слуханьні па іх эканамічных праграмах.

5. Правядзеньне эканамічнай экспэртызы рэкамэндацый НДА, што працуюць па рознай праблематыцы (ад экалягічных пытаньняў і праблемаў аховы здароўя да гэндэрных тэмаў).

Трэба адзначыць, што такая дзейнасьць, апроч іншага, садзейнічала б таму, што актывісты грамадзкіх арганізацый замацоўвалі б свае ўласныя кампэтэнцыі, пашыралі б каапэрацыйную сетку зь іншымі арганізацыямі і павялічвалі б кола людзей, зь якімі можна працаваць ужо па “профільных тэмах” тых ці іншых НКА.

У асяродках трэцяга сэктару неабходнае зьяўленьне моцных і актыўных эканамічных “фабрык думкі” як рэспубліканскага, так і рэгіянальнага ўзроўню. Яны павінныя пастаянна прадукаваць высокапрафэсійныя эканамічныя веды, у тым ліку вузкагаліновыя.

***...беларускае грамадзтва цалкам эканамічна неадэкватнае***

ста эканамічнай пісьменнасьці сярод жыхароў краіны. Гэта магло б даць добры акумулятыўны эфэкт у будучыні. А спосабы такой дзейнасьці грамадзкіх арганізацый могуць быць самымі разнастайнымі. Напрыклад:

1. Арганізацыя дыскусій ці дэбатаў на эканамічную тэматыку.
2. Арганізацыя сэмінараў, круглых сталоў ці эканамічных прэзэнтацый з запрашэньнем адмыслоўцаў. Асабліва карыснымі былі б рознага кшталту рэгіянальныя мерапрыемствы і мерапрыемствы “для чайнікаў”.
3. Распаўсюджаньне сярод сваіх актывістаў і па сваіх кантактных базах матэрыялаў на эканамічную тэматыку.
4. Рэгулярныя запыты да дзяржаўных установаў і

Раней ці пазьней гэтыя веды будуць запатрабаваныя на дзяржаўным узроўні. Сёньня з такімі НКА, дарэчы, таксама вялікія праблемы. Ёсьць шэраг арганізацый трэцяга сэктару (дасьледчыя інстытуты, аналітычныя цэнтры), што выпрацоўваюць незалежныя эканамічныя прапановы грамадзтву і ўладам. Але ж, па-першае, такіх арганізацый вельмі мала. Іх усіх фактычна можна пералічыць на пальцах. І такой колькасьці, зразумела, недастатковa для краіны з насельніцтвам 9,5 млн жыхароў. Па-другое, амаль усе гэтыя арганізацыі сканцэнтраваныя ў Менску. А значыць, рэгіянальная спэцыфіка ў іх дзейнасьці застаецца нераскрытай.

# Флёр законнасьці



## *Варта праводзіць падзел паміж зьменамі ў закон аб КДБ і зьменамі ў законах аб грамадзкіх аб'яднаньнях, палітычных партыях, аб масавых мерапрыемствах*

**Юры Чавусаў**

Восеньская сэсія беларускага парлямэнта была адзначаная велізарнай і нетыповай увагай грамадзкасьці да заканатворчага працэсу. Калі раней увага назіральнікаў была кропкава скіраваная на адзін альбо некалькі спрэчных альбо прынцыпова важных законапраектаў, то ў верасьні-лістападзе практычна ўвесь парадак дня парлямэнцкіх паседжаньняў выклікаў пільную зацікаўленасьць мэдыяў і грамадзянскай супольнасьці.

Пры гэтым, паводле традыцыі, і верхняя, і ніжняя палаты парлямэнта цалкам ухіліліся ад крытычнага аналізу прадстаўленых выканаўчай уладай прапановаў. Практычна ўсе прапанаваныя органамі выканаўчай улады праўкі былі прынятыя безь якіх-кольвечы значных зьмяненьняў у параўнаньні з тым, як яны былі прадстаўленыя ў парлямэнт суб'ектамі заканадаўчай ініцыятывы. Нетыпова, што многія зь іх былі разгледжаныя ў закрытым рэжыме, і гэта толькі падагрэла інтрыгі.

**Стратэгічныя пагадненьні**

Як ні дзіўна, доўгатэрміновае і прынцыповае значэньне для разьвіцьця краіны будуць мець ня гучна асуджаныя міжнароднымі назіральнікамі рэпрэсіўныя праўкі, скіраваныя на далейшае абмежаваньне грамадзянскіх свабодаў і дзейнасьці грамадзянскай супольнасьці. Хутчэй ратыфікацыя беларуска-расійскага пагадненьня аб супрацоўніцтве ў будаўніцтве АЭС стане дакумэнтам, які перадвызначыць шляхі разьвіцьця нашай краіны на дзесяцігодзьдзі. Гэты дакумэнт замацоўвае энэргетычную прывязку нашай краіны да расійскіх крыніцаў атамнага паліва да сярэдзіны стагодзьдзя, а значыць, стварае яшчэ адзін геапалітычны чыньнік утрыманьня нашай краіны ў геапалітычнай сфэры расійскага ўплыву. Пазьней да гэтага пагадненьня быў далучаны расійскі крэдыт у дзесяць мільярдаў даляраў, які зьяўляецца зьвязаным (у Беларусь жывыя грошы не паступяць – яны будуць выдаткоўвацца толькі для закупак у Расіі з мэтай фінансаваньня пабудовы беларускай АЭС). Прынцыпова важна, што некаторыя з палажэньняў ратыфікаванай парлямэнтам дамовы будуць дзейнічаць незалежна ад магчымага скасаваньня дамовы – краіна падпісалася пад атамны прыгон бяз права перагляду пагадненьняў. Паказальна, што пратэсты грамадзкасьці супраць самога факту будаўніцтва АЭС не былі пачутыя.

У рэчышчы замацаваньня існага рэжыму на доўгатэрміновую пэрспэктыву і перадухіленьня непажаданых крыніцаў дэстабілізацыі варта разглядаць і ратыфікацыю пагадненьня аб калектыўных сілах хуткага рэагаваньня Арганізацыі дамовы аб калектыўнай бясьпекі (АДКБ). Такім чынам, Беларусь падтрымала стварэньне вайсковых сілаў, якім нададзеная функцыя атраду міжнародных карнікаў у мэтах абароны тыранічных рэжымаў на постсавецкай прасторы – своеасаблівага "эўразійскага АМАПу" на службе ў дыктатарскага інтэрнацыяналу. Існуе небясьпека, што АДКБ са згоды Захаду будзе нададзеная функцыя патранату над сярэднеазіяцкім абшарам. Пад уплывам глябаль-

ных фактараў можа аформіцца падзел роляў паміж АПАД і АДКБ у гэтым рэгіёне. У такім выпадку Беларусь як удзельнік новай блёкавай архітэктуры будзе заангажаваная ў сярэднеазіяцкія справы зь непазьбежным ўдзелам нашых вайскоўцаў у тамтэйшых войнах і канфліктах паводле абавязаньняў гэтых новых дамоваў. Таксама вельмі важна, што ў выпадку запрашэньня сілаў хуткага рэагаваньня ў Беларусь (у тым ліку ў выпадку пагрозы дзейнай уладзе) іх жаўнеры ня будуць падпарадкоўвацца нацыянальнаму заканадаўству, і нават у выпадку ўчыненьня імі крымінальных злачынстваў судзіць іх па беларускіх законах ня будуць.

На тле такіх стратэгічна важных і сур'ёзных міжнародных дамоваў прыняты парлямэнтам і падпісаны прэзыдэнтам пакет новых антырэвалюцыйных заканадаўчых актаў мае хутчэй інструмэнтальнае, а не стратэгічнае значэньне. Ён нясе вялікую пагрозу грамадзянскай супольнасьці і дэмакратычнай апазыцыі, але не выглядае вельмі небясьпечным у вачах шырокага кола абывацеляў.

### Права бяспраўя

Немагчыма казаць, што парушэньні правоў чалавека ў Беларусі ёсьць выпадковымі адхіленьнямі альбо адзінкавымі выпадкамі, зьвязанымі зь недахопамі ў працы асобных дзяржаўных органаў ці чыноўнікаў. Наадварот, парушэньні правоў чалавека сталіся характэрнай прыкметай беларускага палітычна-прававога рэжыму, адным з мэтадаў кіраваньня. Намаганьнямі дзейнага прэзыдэнта ў краіне пабудаваная сыстэма дзяржаўнага апарату, які ня можа ажыцьцяўляць дзяржаўнае кіраваньне без пастаянных парушэньняў правоў чалавека і пастаяннага пазбаўленьня беларускіх грамадзянаў усё новых і новых кампанэнтаў іх канстытуцыйных правоў.

Гэтая сыстэма абапіраецца на абавязковую дзяржаўную ідэалёгію, варожую самой ідэі правоў чалавека, ідэалёгію, якая дае палітычнае абгрунтаваньне неправавым дзеяньням уладаў і зьнішчае магчымае іншадумства. Важным складнікам гэтай сыстэмы ёсьць выканаўчыя органы ўлады ("вэртыкаль"), якія фармуюцца нявыбарным шляхам, не залежаць ад палітычнай волі народа, дзейнічаюць на аснове антыправавога заканадаўства, асабіста падпарадкаваныя прэзыдэнту. Функцыянаваньне гэтых органаў на чале з прэзыдэнтам суправаджаецца пастаяннымі парушэньнямі правоў чалавека. Прадстаўнічыя органы ўлады (парлямэнт і мясцовыя саветы) пазбаўленыя рэальнага кантролю за адміністрацыйнымі органамі, ня могуць стварыць перашкоду парушэньням правоў чалавека альбо прыняцьцю антыправавых актаў заканадаўства. Да таго ж у складзе прадстаўнічых органаў цяпер ужо практычна няма асобаў, здольных выказаць нязгоду з незаконнымі дзеяньнямі выканаўчых уладаў, падначаленых прэзыдэнту. І, нарэшце, гарантам устойлівасьці гэтай сыстэмы парушэньня правоў чалавека зьяўляецца суд, цалкам залежны ад адміністрацыі, які кіруецца ў сваёй дзейнасьці не прынцыпамі законнасьці і аб'ектыўнасьці, а прынцыпам мэтазгоднасьці для ўладаў. Беларускі суд не дае грамадзянам магчымасьці абараніць свае правы эфэктыўна.

Нарматыўным падмуркам для сыстэмнага парушэньня правоў чалавека зьяўляецца антыправавое заканадаўства, якое не грунтуецца на прынцыпе верхавенства закону. Цяпер у Беларусі Канстытуцыя ня лічыцца актам простага дзеяньня, не выкарыстоўваецца ў судах

***краіна падпісалася пад атамны прыгон бяз права перагляду пагадненьняў***





і ў штодзённай прававой практыцы – адпаведна, і зафіксаваныя ў ёй гарантыі правоў чалавека – фіктыўныя. Найвышэйшую прававую моц у беларускай юрыдычнай сыстэме маюць не законы, а дэкрэты і ўказы прэзыдэнта. Многія з гэтых дэкрэтаў і ўказаў супярэчаць адзін аднаму, законам і Канстытуцыі, міжнароднаму праву.

Пры такіх умовах унясеньне ў законы зьменаў скіраванае не на стварэньне новай прававой рэчаіснасьці, а на легітымацыю антыправавых практык, якія і так выкарыстоўваюцца дзяржаўнымі органамі. Папросту бясправаўю надаецца некаторы флёр законнасьці, што, мабыць, трохі супакойвае сумленьне выканаўцаў. У аналы права ўвойдзе выпадак, калі зьмены ў закон аб прэзыдэнце, якія зьнялі абмежаваньне на трохразовае займаньне паста кіраўніка дзяржавы, былі ўведзеныя толькі пасьля трэціх выбараў Лукашэнкі. Ну, падумаеш – забылі закон памяняць... Так і цяпер: адсутнасьць заканадаўчай базы не перашкаджала праваахоўнікам ганяць і арыштоўваць удзельнікаў маўклівых акцыяў пратэсту – а цяпер пад гэта прынялі задняй датай адпаведны закон (хоць гэты фармат пратэстаў, як падаецца, выдыхнуўся яшчэ летам). Можна прагназаваць, што неўзабаве будуць ініцыяваныя і прынятыя зьмены ў заканадаўства аб мясцовых і рэспубліканскіх сходах, якія па недаглядзе дазволілі апазыцыі скарыстацца нестыкоўкай у праве для спробы правядзеньня народных сходаў у абыход драконаўскага дазвалянага парадку, замацаванага Законам "Аб масавых мерапрыемствах".

**Крымінальныя ахвяраваньні**

Паводле новых паправак, фактычна не мяняецца рэгуляваньне атрыманьня замежнай дапамогі. Толькі ўсталёўваецца значна большая мера адказнасьці – крымінальная адказнасьць. Дэ-факта такія крымінальныя артыкулы, напэўна, ня будуць ужываць, каб пасадзіць людзей за краты, але выкарыстаюць для завядзеньня крымінальных справаў дзеля перадухіленьня атрыманьня замежнага фінансаваньня апазыцыйнымі арганізацыямі (на такую думку наводзіць наяўнасьць у фармулёўцы крымінальнага артыкула адміністрацыйнай прэюдыцыі, калі крымінальная адказнасьць магчымая толькі пасьля папярэдняга прыцягненьня да адміністрацыйнай адказнасьці).

У цэлым зьмены ў сфэры замежнай бязвыплатнай дапамогі толькі ў некаторай ступені закранулі сам парадак атрыманьня і выкарыстаньня такой дапамогі. ўведзеная крымінальная адказнасьць. Вядома, што гэтыя праўкі былі ўнесеныя ў парлямэнт летам 2011 года, што можа сьведчыць пра своеасаблівае імкненьне крыміналізаваць дзеяньні, падобныя да тых, што сталі падставай для перасьледу праваабаронцы Алеся Бяляцкага, хоць фармальна ён абвінавачваецца ў іншым парушэньні, зьвязаным зь нявыплатай падаткаў у асабліва буйным памеры (у прапанаваным крымінальным артыкуле памер парушэньняў, датычных замежнай бязвыплатнай дапамогі, ня мае значэньня). Першы варыянт законапраекту, унесены ў парлямэнт, не адрэдагавалі і прынялі амаль у тым выглядзе, як прапаноўваў урад.

> ***адсутнасьць заканадаўчай базы не перашкаджала праваахоўнікам ганяць і арыштоўваць удзельнікаў маўклівых акцыяў***

Можна казаць пра пэўныя ўзмацненьні жорсткасьці рэжыму фінансаваньня палітычных партый і выбарчых кампаніяў, а таксама аб распаўсюджаньні на ўсе грамадзкія аб'яднаньні тых абмежаваньняў, якія раней існавалі для палітычных партый (напрыклад, забарона мець рахункі за мяжой). Важна адзначыць, што зьмены не закранаюць пытаньняў атрыманьня замежнага фінансаваньня, якое даецца ў рамках міжнароднай тэхнічнай дапамогі (напрыклад, па лініях розных праграм ААН).

Варта падкрэсьліць, што заканадаўца толькі нязначна адкарэктаваў парадак атрыманьня і выкарыстаньня замежнай бязвыплатнай дапамогі, але кардынальным чынам зрабіў больш жорсткай адказнасьць за парушэньне гэтага парадку. У гэтай частцы пашыраныя падставы для адміністрацыйнай адказнасьці і

Ужо вядома, што распрацоўваюцца зьмяненьні і ў рэгуляваньні ўнутранымі ахвяраваньнямі: у адпаведнасьці з плянамі, у другім паўгодзьдзі будзе адменены ўказ аб унутранай спонсарскай дапамозе, аднак пакуль невядома, які будзе парадак, што прыйдзе яму на зьмену. Адзін з распрацаваных праектаў прапаноўвае ўвесьці і для ўнутраных ахвяраваньняў той жа дазвольны парадак, які існуе для замежнай бязвыплатнай дапамогі, але ёсьць і менш радыкальныя прапановы.

Варта адзначыць, што за першае паўгодзьдзе 2011-га (між іншым, калі краіна знаходзілася ў стане ўвядзеньня санкцыяў і значнай ізаляцыі) аб'ём замежнай бязвыплатнай дапамогі, што рэгіструецца ўладамі Беларусі, павялічыўся на 20% – з 40 да 48 мільёнаў даляраў. Штогадо-



**значэньне заканадаўчых папраўак — павялічыць градус страху ў грамадзтве**

вы аб'ём замежнай дапамогі, якая паступае праз Дэпартамэнт гуманітарнай дзейнасьці, складае больш за сто мільёнаў даляраў. У сытуацыі крызісу такая сума робіцца значнай для бюджэту, бо гэта менавіта дапамога, субсыдыі, адрасныя ахвяраваньні, якія ня трэба аддаваць. Падобна, што беларускі рэжым пачаў разглядаць КБС як важную бюджэтную крыніцу і будзе імкнуцца пераключыць на дзяржаўны (або кантраляваны дзяржавай) канал усю сацыяльную, дабрачынную, экалягічную замежную дапамогу.

У прынцыпе, такі падыход тыповы для бедных краін: у некаторых з найменш разьвітых краінаў глябальнага Поўдня ўся дзяржаўная сацыяльная сфэра, у тым ліку часам і пэнсійная сыстэма, фінансуецца менавіта за кошт эўрапейскіх грантаў (найбольш вядомы тут прыклад палестынскай аўтаноміі і сэктару Газа). Пры такой трактоўцы дзеяньні па крыміналізацыі замежнай бязвыплатнай дапамогі можна разглядаць ня толькі як барацьбу з замежным фінансаваньнем апазыцыі, але і як барацьбу за дзяржкантроль над тымі сродкамі, што могуць паступіць у Беларусь у рамках гуманітарных праектаў і праграмаў: улада папросту сама хоча стаць галоўным рэгулятарам і атрымальнікам у гэтай сфэры і такім чынам робіць крымінальнікамі сваіх патэнцыйных канкурэнтаў.

Што да зьменаў у заканадаўства аб органах дзяржаўнай бясьпекі, пра якія шмат пісала прэса і якія, дарэчы, яшчэ не разгледжаныя парлямэнтам, то іх варта разглядаць у рамках агульнага узмацненьня гэтай спэцслужбы ў сыстэме ўзаемаадносінаў груп, якія кіруюць цяпер у Беларусі. Варта праводзіць падзел паміж зьменамі ў закон аб КДБ і зьменамі ў законах аб грамадзкіх аб'яднаньнях, палітычных партыях, аб масавых мерапрыемствах. Зьмены ў закон аб КДБ, відавочна, прымаюцца ў межах гульні, якая вядзецца паміж рознымі ведамствамі і службамі ўнутры рэжыму. І зьвязана гэта з імкненьнем, каб інтарэсы КДБ не пацярпелі ў выніку стварэньня сьледчага камітэта. КДБ робіцца службай, датычнай да Адміністрацыі прэзыдэнта і наўпрост падпарадкаванай яму ў межах прэзыдэнцкага дамэну.

Падобна, што гэтыя зьмены толькі зафіксуюць рост ролі КДБ у сыстэме ўлады як службы менавіта палітычнага кантролю. Цяпер, як кажуць, усе людзі рэжыму сталі ястрабамі – гэта натуральны адбор. Але трэба адрозьніваць тых чыноўнікаў, якія вымушана перафарбоўваюцца ў «партыю ўлады» (якой дэ-факта пасьля 19 сьнежня стала партыя сілавікоў), ад тых, хто сапраўды кіруе партыяй улады. І якраз КДБ — той асяродак, дзе гэтая партыя ўлады, «група памежнікаў», акапалася. Умоўна кажучы, цяпер у Беларусі зьменшылася роля Адміністрацыі прэзыдэнта і павялічылася роля КДБ. І адпаведна мяняецца заканадаўства — пад гэтае пераразьмеркаваньне, якое ўжо адбылося.

Агульнае значэньне гэтых папраўак — павялічыць градус страху ў грамадзтве. ■



# Эўразійскі саюз VS Эўразьвяз:

## новыя выклікі для грамадзянскай супольнасьці Беларусі



Зьміцер Кухлей

**Пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2010 года адносіны беларускага кіраўніцтва з Захадам былі безнадзейна сапсаваныя, чым скарысталася расейскае кіраўніцтва і ўцягнула Беларусь у інтэграцыйныя праекты на постсавецкай прасторы. Гэтыя праекты маюць на мэце аднаўленьне геапалітычнай вагі Расіі ў сучасным сьвеце. У сытуацыі замарожаных стасункаў з заходнімі краінамі ў каротка- і сярэднетэрміновай пэрспэктыве ўсходні вэктар беларускай замежнай палітыкі будзе дамінаваць, што ў сваю чаргу істотна паўплывае на разьвіцьцё грамадзянскай супольнасьці ў краіне, умовы існаваньня якой у Беларусі за апошні год моцна пагоршыліся. Хутчэй за ўсё сытуацыя, у якой знаходзіцца беларускі грамадзкі сэктар, у найбліжэйшы час будзе заставацца стабільна кепскай.**

У 2011 годзе Эўразьвяз даваў шанец беларускаму кіраўніцтву збалянсаваць націск усходняга суседа, які пасьля сьнежаньскіх падзеяў 2010 года набыў выключны ўплыў на афіцыйны Менск. Аднак беларускі прэзыдэнт не прыняў падставовых умоваў Эўразьвязу па наладжваньні стасункаў. Афіцыйны Менск не скарыстаўся з магчымасьці аднаўленьня дыялёгу з ЭЗ увосень гэтага года падчас саміту кіраўнікоў краін - партнэраў па ініцыятыве «Ўсходняе партнэрства», зрабіўшы дэмарш і адклікаўшы сваю дэлегацыю зь мерапрыемства. Пры гэтым беларуская грамадзянская супольнасьць працягвае сваю працу ў рамках ініцыятывы ЎП, у той час як афіцыйнае кіраўніцтва Беларусі спакусілася на «пернікі» ўсходняга суседа і цал-кам патрымала інтэграцыйныя ініцыя-тывы кіраўніцтва Расейскай Фэдэрацыі, якія прадугледжваюць рэінтэграцыю постсавецкіх краінаў.

У канцы 2010 года прэзыдэнты Расеі, Беларусі і Казахстана прынялі Дэклярацыю аб фармаваньні Адзінай эканамічнай прасторы (АЭП), а таксама падпісалі шэраг пагадненьняў аб дзейнасьці АЭП і завяршылі фармаваньне дамоўнаправавой базы гэтага аб'яднаньня. У 2012 годзе плянуецца падпісаньне дакумэнтаў аб стварэньні новага амбіцыйнага праекта «Эўразійскі саюз». Нягледзячы на тое, што падобных інтэграцыйных ініцыятываў у розных сфэрах на прасторах былога СССР дастаткова шмат, ніводную зь іх нельга назваць цалкам пасьпяховай. Аднак менавіта цяпер на постсавецкай прасторы

складваюцца спрыяльныя ўмовы для ажыцьцяўленьня пуцінскай ідэі аднаўленьня былой магутнасьці Расеі ў абноўленай вэрсіі СССР – Эўразійскім саюзе.

У выпадку рэалізацыі інтэграцыйных памкненьняў кіраўнікоў постсавецкіх краінаў беларуская грамадзянская супольнасьць сутыкнецца з шэрагам выклікаў. Па-першае, большасьць суб'ектаў незалежнага грамадзтва ў Беларусі арыентаваная на інтэграцыю з Захадам і эўрапеізацыю краіны. Значная меншыя сувязі беларускія некамэрцыйныя арганізацыі маюць са сваімі ўсходнімі суседзямі праз слабасьць гэтага сэктару ў самой Расеі і адсутнасьць падтрымкі такіх кантактаў з боку дзяржаваў-саюзьнікаў. Па-другое, расейскія, як і ўвогуле постсавецкія, эліты стрымліваюць разьвіцьцё грамадзянскай супольнасьці ў сваіх краінах і тым болей не жадаюць узмацненьня ўплыву грамадзянскай супольнасьці на інтэграцыйныя працэсы, што значна адрозьнівае падыходы «эўразійцаў» ад «эўрапейцаў» у дачыненьні да інтэграцыі. Адпаведна, у адрозьненьне ад Эўразьвязу, у «эўразійцаў» адсутнічаюць распрацаваныя мэханізмы падтрымкі і разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці, павелічэньня яе ролі ў інтэграцыйных працэсах і ў краінах-чальцах. Па-трэцяе, культурныя і сацыяльна-псыхалягічныя перадумовы ў патэнцыйных краінах-чальцах Эўразійскага саюзу не спрыяюць разьвіцьцю грамадзянскай супольнасьці. Па-чацьвертае, пуцінскі праект інтэграцыі грунтуецца выключна на геапалітычных і эканамічных прыярытэтах: у РФ, у адрозьненьне ад ЭЗ, няма падставовых умоваў, якія павінныя выконвацца для паглыбленьня інтэграцыі і атрыманьня ад яе адпаведных выгодаў: правы чалавека, разьвіцьцё дэмакратыі, грамадзянскай супольнасьці і самакіраваньня не ўваходзяць у лік прыярытэтных кірункаў для расейскага кіраўніцтва. Болей за тое, шэраг экспэртаў і навукоўцаў падкрэсьліваюць нэгатыўную ролю кіраўніцтва Расейскай Фэдэрацыі ў распаўсюдзе аўтарытарных практыкаў на былой постсавецкай прасторы і падтрымцы аўтарытарных кіраўнікоў, якія ствараюць перашкоды для разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці ў сваіх краінах.

Эўразійскі саюз ня можа стаць для беларускай грамадзянскай супольнасьці ўсходнім аналягам Эўразьвязу, таму што ўсе патэнцыйныя краіны-чальцы Саюзу зьяўляюцца краінамі з аўтарытарнымі рэжымамі, дзе становішча грамадзянскай супольнасьці і сытуацыя з дэмакратычным працэсам у апошнія гады або пагоршылася (Расея), або застаецца стабільна кепскай (Беларусь і Казахстан). У постсавецкім рэгіёне (акрамя Прыбалтыкі) няма ніводнай краіны, якую па мэтадалёгіі Freedom House можна акрэсьліць як свабодную: сем дзяржаваў вызначаюцца як несвабодныя і пяць – як часткова свабодныя [Puddington, 2011]. За апошнія два гады, з часу прэзыдэнцтва Віктара Януковіча, Украіна, якая таксама разглядаецца як патэнцыйны чалец Эўразійскага саюзу, страціла статус свабоднай і была акрэсьленая як часткова свабодная краіна. Як заўважае Мікола Рабчук, украінская посткамуністычная трансфармацыя "павісла" паміж дысфункцыйнай дэмакратыяй і некансалідаваным аўтарытарызмам [Рябчук, 2010]. Міхаэль Эмэрсан адносіць Армэнію, Грузію, Малдову і Ўкраіну да групы пераходных краінаў, а Беларусь і Азэрбайджан – да "ўзьнікаючых дынастыяў", у якіх у той ці іншай ступені выяўляюцца тэндэнцыі да спадчыннай перадачы ўлады [Emerson, 2009, с. 22].

Дэмакратычнаму пераходу, разьвіцьцю і ўмацаваньню грамадзянскай супольнасьці ў постсавецкіх краінах, у тым ліку ў Беларусі, перашкаджае палітыка Расейскай Фэдэрацыі, якая лічыць гэты рэгіён сваім геапалітычным прыярытэтам і ажыцьцяўляе прагматычную палітыку, скіраваную на прадухіленьне пераходу постсавецкіх краінаў пад заходні ўплыў. Паводле сьведчаньняў экспэртаў, «вялікадзяржаўны канцэпт зьбіраньня земляў» будзе галоўнай ідэяй Уладзіміра Пуціна падчас яго чарговай кадэнцыі ў якасьці прэзыдэнта РФ.

Зьяўляючыся лідэрам у шматлікіх рэгіянальных аб'яднаньнях на постсавецкай прасторы, а таксама павялічыўшы сваю геапалітычную вагу, Расея робіць істотны ўплыў на ўзровень дэмакратычнага працэсу ў постсавецкім рэгіёне, і гэты ўплыў разглядаецца асобнымі дасьледчыкамі як нэгатыўны [Kastner, 2010; Ambrosio, 2006; Kagan, 2008].

















Па-першае, расейскае кіраўніцтва аказвае фінансавую і дыпляматычную падтрымку асобным аўтарытарным кіраўнікам, якія выкарыстоўваюць антызаходнюю рыторыку і дэкляруюць сваім прыярытэтам інтэграцыю з Расейскай Фэдэрацыяй, як, напрыклад, Аляксандар Лукашэнка. З дапамогай газавай і нафтавай рэнты, міждзяржаўных крэдытаў Расея дазваляе беларускаму прэзыдэнту ўтрымліваць кантроль у дзяржаве за кошт палітыкі папулізму, падтрыманьню рэпрэсіўнага і ідэалягічнага апарату.

Па-другое, расейскія эліты бачаць незалежную грамадзянскую супольнасьць як у сваёй, так і ў іншых постсавецкіх краінах як агента ўплыву Захаду і элемэнт замежнай палітыкі заходніх краінаў, з дапамогай якой апошнія хочуць "навязаць" элітам гэтых дзяржаваў заходнія каштоўнасьці і вывесьці іх з-пад расейскага ўплыву. Такі погляд расейскіх элітаў яшчэ болей узмацніўся пасьля сэрыі каляровых рэвалюцыяў у краінах СНД, дзе значную ролю ў прыходзе да ўлады празаходніх палітыкаў гралі структуры грамадзянскай супольнасьці, а аўтарытарныя кіраўнікі, якіх падтрымала Расея, атрымалі паразу.

Варта зазначыць, што беларуская грамадзянская супольнасьць сапраўды ў пераважнай большасьці ёсьць прыхільнікам інтэграцыі з заходнім сьветам і нэгатыўна ацэньвае ролю Расеі ў станаўленьні беларускага аўтарытарызму. Пры гэтым значная колькасьць незалежных беларускіх грамадзкіх арганізацый аб'ядналіся вакол Нацыянальнай плятформы Форуму грамадзянскай супольнасьці, які зьяўляецца праектам Эўразьвязу і прапануе цэлы шэраг мэханізмаў уплыву грамадзкага сэктару на працэс прыняцьця рашэньняў у рамках Усходняга партнэрства. Нічога такога ніколі не прапаноўвалася Масквой у рамках інтэграцыйных праектаў, якія канцэнтруюцца на геапалітычных і эканамічных прыярытэтах, а таксама часта зьяўляюцца прадуктам, што выкарыстоўваецца маскоўскімі паліттэхнолягамі для ўнутранага спажываньня і прыцягненьня на свой бок праімпэрскага электарату.

Акрамя таго, у самой Расейскай Фэдэрацыі з 2004 года рэалізуецца пасьлядоўная стратэгія дамінаваньня дзяржавы і ўбудоўваньня грамадзянскай супольнасьці ў грамадзкапалітычную сыстэму. Дзьвюма найважнейшымі прыкметамі гэтай стратэгіі сталі стварэньне Грамадзкай палаты, выкарыстаньне яе як адзінага каналу сувязі зь дзяржавай і прыняцьце паправак у заканадаўства аб некамэрцыйных




**У выпадку рэалізацыі інтэграцыйных памкненьняў кіраўнікоў постсавецкіх краінаў беларуская грамадзянская супольнасьць сутыкнецца з шэрагам выклікаў.**




арганізацыях, якія ўступілі ў дзеяньне з 2006 года і ўтрымлівалі рэпрэсіўныя моманты ў дачыненьні да некамэрцыйнага сэктару. Рэалізацыя гэтай стратэгіі прывяла да істотнага звужэньня магчымасьцяў грамадзянскай супольнасьці ўплываць на сацыяльна-палітычныя працэсы ў расейскім грамадстве. Як аўтарытарызм, дзе стаўленьне да грамадзянскай супольнасьці мала чым адрозьніваліся ад беларускай рэальнасьці.

Акрамя таго, на постсавецкай прасторы, у тым ліку ў Беларусі, адсутнічаюць культурныя і сацыяльна-псыхалягічныя перадумовы разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці. Беларускае насельніцтва мае многія з прыкметаў, якімі Алена Басіна характарызуе расейскага грамадзяніна:

- нежаданьне, якое перажываецца як немагчымасьць і няздольнасьць узяць на сябе адказнасьць за тое, што адбываецца ў грамадстве, нават за ўласнае жыцьцё;
- інфантыльнае адчуваньне ўласнай асабістай неадказнасьці ні за што;
- перакладаньне адказнасьці, вырашэньня праблемаў на кагосьці іншага (у выніку – на ўладу);
- эгалітарысцкае разуменьне справядлівасьці як «ураўнілаўкі», а ня роўнасьці магчымасьцяў;
- нецярпімасьць да рознасьці становішча, прыбыткаў, інтарэсаў і нават здольнасьцяў.

Невялікая колькасьць адказных, кампэтэнтных грамадзянаў у краінах былога СССР, якія зьяўляюцца асновай грамадзянскай супольнасьці, значна звужае магчымасьці для разьвіцьця некамэрцыйнага сэктару ў рамках інтэграцыйных праектаў на постсавецкай прасторы. У той час як грамадзяне цэнтральна- і ўсходнеэўрапейскіх краінаў, якія абралі курс на эўраінтэграцыю, мелі магчымасьць праз вандроўкі і міжасабовыя кантакты вывучаць станоўчы досьвед пабудовы грамадзянскай супольнасьці ў Заходняй Эўропе, беларусы ў выпадку пасьпяховай рэалізацыі праекта Эўразійскага саюзу будуць вымушаны пераймаць у сваіх усходніх партнэраў досьвед пабудовы «сувэрэннай дэмакратыі».

Такім чынам, пэрспэктывы разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці Беларусі ў рамках Эўразійскага саюзу выглядаюць даволі цьмяна. У адрозьненьне ад Эўразьвязу, у эўразійцаў сярод падставовых каштоўнасьцяў інтэграцыі адсутнічаюць такія паняцьці, як дэмакратыя, грамадзянская супольнасьць і правы чалавека. Адпаведна, у рамках інтэграцыйных ініцыятываў на постсавецкай прасторы не распрацоўваюцца мэханізмы ўдзелу ў гэтых праектах грамадзянскай супольнасьці: пуцінскі праект «СССР 2.0» не прадугледжвае асобнай ролі грамадзкага сэктару ў інтэграцыйных ініцыятывах. Беларускі некамэрцыйны сэктар мае нашмат больш прывабныя магчымасьці ў рамках ініцыятывы Эўразьвязу «Усходняе партнэрства», у рамках якой і будзе працягвацца разьвіцьцё грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі. ■

***У адрозьненьне ад Эўразьвязу, у эўразійцаў сярод падставовых каштоўнасьцяў інтэграцыі адсутнічаюць такія паняцьці, як дэмакратыя, грамадзянская супольнасьць і правы чалавека.***



і ў Беларусі, узровень уплыву і аўтарытэт няўрадавых арганізацый у Расеі застаюцца вельмі нізкімі, а ўладныя структуры не ідуць на супрацоўніцтва з такімі арганізацыямі і бачаць у іх апазыцыйны пачатак, які перашкаджае бестурботнай працы бюракратычнай машыны [Канунников, 2011].

Экспэрты сыходзяцца ў меркаваньні, што Расею і далей чакае разьвіцьцё па сцэнары аўтарытарнага кіраваньня, асабліва ў выпадку вяртаньня на пасаду прэзыдэнта Ўладзіміра Пуціна. Нават за часы вонкава «лібэральнага» прэзыдэнта Дзьмітрыя Мядзьведзева Расея ўсё болей спаўзала ў



**Каардынатар нацыянальнай плятформы Форуму грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства Сяргей Лісічонак – пра карысьць ад Усходняга партнэрства для беларускага незалежнага грамадства, новыя пэрспэктывы моладзевага актывізму і пасіўнасьць панэўра-пейскіх арганізацыяў у працы Форуму грамадзянскай супольнасьці.**

# Новыя гарызонты супрацы

**Карэспандэнт: Адбыўся ўжо трэці Форум грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства. Давайце для пачатку акрэсьлім, для чаго ўвогуле адбываюцца падобныя мерапрыемствы. Бо ў некаторых назіральнікаў можа ўзьнікнуць адчуваньне, што на Форуме зьбіраюцца толькі дзеля дэмагогіі.**

-- Не згаджуся з фармулёўкай, што ўдзельнікі Форуму грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства (далей – Форум) зьбіраюцца дзеля бессэнсоўнага баўленьня часу. Форум – гэта камунікатыўная пляцоўка, у межах якой прадстаўнікі грамадзянскіх супольнасьцяў краінаў -- удзельніц Усходняга партнэрства абменьваюцца сваімі меркаваньнямі. Шмат для каго зь лідэраў і арганізацыяў удзел у Форуме -- гэта магчымасьць наладжваньня кантактаў з зацікаўленымі асобамі і арганізацыямі.

У якасьці прыкладу можна згадаць тое, як дзейнічае ініцыятыўная група, міжнародная кааліцыя па прасоўваньні візавай лібэралізацыі ў краінах Усходняга партнэрства. Гэта вельмі пасьпяховая група арганізацыяў, якія супрацоўнічаюць паміж сабой, якія імкнуцца да таго, каб паміж Эўрапейскім зьвязам і краінамі Ўсходняга партнэрства не было візавага бар’еру. На мінулым кангрэсе пасьпяхова працавала Таварыства беларускай мовы, якое змагло ўзьняць праблему абароны лінгвістычных правоў сярод іншых зацікаўленых арганізацыяў з нашага рэгіёну.

**Ці ёсьць нейкія канкрэтныя вынікі, акрамя заяваў? Зразумела, ёсьць стратэгія, ёсьць нацыянальныя плятформы ды пастаянны Сакратарыят. Але што гэта азначае, напрыклад, для шараговага актывіста трэцяга сэктару Беларусі?**

-- Усё залежыць ад таго, наколькі гэты самы шараговы актывіст трэцяга сэктару Беларусі сам цікавіцца праграмамі ЎП, наколькі ён матываваны на міжнародную супрацу. Заявы самі па сабе – гэта вельмі сымбалічна. Але і яны прыводзяць да канкрэтных вынікаў.

Напрыклад, нядаўняя заява па справе Алеся Бяляцкага. На Форуме прадстаўнікі беларускіх аб’яднаньняў прапанавалі прысутным ухваліць супольную рэзалюцыю па справе Алеся Бяляцкага. Гэта быў адзін з найяскравейшых момантаў. Дэлегаты беларускай грамадзянскай супольнасьці разам з замежнымі калегамі зарганізаваліся, прынялі заяву, якая засьведчыла, што грамадзянская супольнасьць усіх шасьці краінаў-партнэраў выступае ў абарону правоў чалавека ў Беларусі. Варта сказаць, што дадзеныя высілкі прынесьлі ня толькі сымбалічны вынік, але і сур’ёзна паўплывалі на сытуацыю. Справа ў тым, што на Форуме прысутнічаў міністар замежных справаў Польшчы Радаслаў Сікорскі. Ён убачыў, наколькі аднагалосна выступаюць прадстаўнікі гра-

мадзянскае супольнасьці ўсіх прысутных краінаў па пытаньні Алеся Бяляцкага. Кіраўнік замежнапалітычнага ведамства яшчэ раз пацьвердзіў, што і МЗС Польшчы, і сама польская дзяржава будуць няспынна сачыць за разьвіцьцём падзеяў і рабіць усё магчымае, каб найхутчэй вызваліць Алеся Бяляцкага. Вось і канкрэтны прыклад таго, як, здаецца, простая рэзалюцыя потым знаходзіць больш канрэтнаесваё ўвасабленьне.

Непасрэдныя сустрэчы дэлегатаў на Форуме цягам 1-3 дзён – гэта толькі вяршыня айсбэргу. Асноўны аб'ём працы робіцца цягам усяго года тэматычнымі групамі, а ня толькі на Форуме. І менавіта пастаянная дзейнасьць тэматычных групаў мае найбольш сур'ёзнае значэньне для Беларусі. Скажам, беларускі Нацыянальны Савет моладзевых і дзіцячых арганізацыяў Беларусі "РАДА" супольна са сваімі калегамі распрацоўваў моладзевы кампанэнт праграмы Ўсходняга партнэрства. Вынікам тае дзейнасьці сталася магчымасьць удзелу моладзевых арганізацыяў з краінаў -- удзельніцаў Усходняга партнэрства ў праграмах, якія фінансуюцца ЭЗ. Раней такой магчымасьці не было, але з 2012 года моладзевыя арганізацыі могуць падаваць праекты пад так званы Eastern Partnership Yougth Window. Адпаведна, моладзевы актывізм у краіне можа атрымаць чарговы стымул для разьвіцьця.

**Вас абралі нацыянальным каардынатарам Форуму грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга партнэрства. Што ўваходзіць у Вашыя абавязкі? Што Вы будзеце рабіць у якасьці каардынатара?**

Хацелася б падзякаваць усім, хто даверыў мне выступаць у дадзенай ролі. У мае абавязкі перш за ўсё будзе ўваходзіць забясьпечаньне працягу дыскусіі, працягу дыялёгу, працягу пошуку супольнага бачаньня разьвіцьця Форуму грамадзянскае супольнасьці ЎП у Беларусі. Мая задача будзе палягаць у тым, каб аб'ектыўна, не надаючы камусьці большай перавагі ў параўнаньні зь іншымі, забясьпечыць абмен думкамі, пошук судакрананьняў як па разьвіцьці ініцыятывы трэцяга сэктару ў межах праграмы ЎП, так і па набліжэньні Беларусі да эўрапейскіх нормаў і стандартаў. Таму ў якасьці каардынатара я буду ў першую чаргу зьвяртацца да арганізацыяў, якія актыўна ўдзельнічаюць у праграме. Для большага эфэкту трэба каардынаваць высілкі трэцяга сэктару, каб яны не былі асобнымі нотамі ў нашай песьні, а складаліся ў супольную сымфонію.


"Буду імкнуцца наладжваць дыялёг"

На практыцы мая дзейнасьць на пасадзе каардынатара будзе выяўляцца ў тым, каб арганізацыі, зацікаўленыя ва ўдзеле ў праграме ЎП, заўжды мелі магчымасьць супрацоўніцтва з аднадумцамі. Буду імкнуцца наладжваць дыялёг праз канфэрэнцыі, праз інтэрнэт-камунікацыю, каб грамадзянская супольнасьць магла выпрацоўваць нейкае агульнае бачаньне ў межах Усходняга партнэрства.

**У любой зьявы ёсьць два бакі. Як бы Вы ахарактарызавалі плюсы і мінусы сёньняшняга ўзаемадзеяньня ў межах Форуму грамадзянскай супольнасьці?**

Форум грамадзянскай супольнасьці стаў зьявай, якой ніхто не чакаў. Спачатку лічылася, што ягонай функцыяй будзе "адзін раз сабрацца і паразмаўляць, паслухаць, што ж скажуць грамадзкія актывісты". Аднак нечакана шмат для каго Форум грамадзянскае супольнасьці пачаў павольны працэс пэўнай інстытуцыялізацыі і далейшага свайго разьвіцьця. Выявілася, што грамадзянская супольнасьць краінаў-партнэраў мае патрэбу ў пляцоўцы для камунікацыі з эўрапейскімі калегамі. І гэта, канечне, самы вялікі плюс Форуму для ўдзельнікаў.

Што да мінусаў, то Форум грамадзянскае супольнасьці яшчэ разьвіваецца, ён шукае сваё дакладнае месца ў архітэктуры ўзаемадачыненьняў паміж краінамі-партнэрамі і ЭЗ. Здараецца, паміж нацыянальнымі ўрадамі і іхнымі грамадзянскімі супольнасьцямі ўзьнікаюць канфлікты. І гэта праблема росту самога Форуму.

Мяне асабіста непакоіць тое, што панэўрапейскія сеткі недзяржаўных арганізацыяў не настолькі актыўна ўдзельнічаюць у працы Форуму, як маглі б. Здавалася б, гэта для іх яшчэ адна дадатковая магчымасьць пашырыць сфэру сваёй дзейнасьці, ахапіць новы рэгіён, які імкнецца быць больш інтэграваным з Эўропай, але сеткі кшталту CONCORD альбо Euclid неяк пасіўна працуюць у межах Форуму грамадзянскае супольнасьці. Адпаведна, нашая задача – зацікавіць эўрапейцаў у больш актыўным супрацоўніцтве зь беларускімі НДА.

■

**Міколя Бянько і Юлія Сівец**

# “Талака” 25

**Гомельская моладзевая краязнаўчая арганізацыя “Талака” – адна з найстарэйшых няўрадавых арганізацыяў Беларусі -- адсьвяткавала свой 25-ы дзень народзінаў.**

**Тэкст: Марына Драбышэўская,**
**Фота: Юлія Сівец**

На сьвяткаваньні талакоўцы шмат сьпявалі ды танчылі (пад дуду, барабан, бубны і нават скрыпку), адбылася прэзэнтацыя дакумэнтальнага фільма «Талака forever» Ларысы Шчыраковай, у якім расказваецца ўся гісторыя арганізацыі ад пачатку і да нашага часу. Апроч таго, арганізатары юбілейнай вечарыны парадавалі запрошаных гасьцёў тэатральнай пастаноўкай фацэцыі Леапольда Родзевіча “П.С.Х.”(“Пільнуй сваю хату”). На сваё сьвята талакоўцы сабралі толькі самых блізкіх сяброў, але заля на 60 чалавек усё адно аказалася запоўненай.

**Яўген Меркіс (старшыня):** На сьвяткаваньне мы запрашалі ў першую чаргу талакоўцаў розных часоў, і толькі тых, хто больш-менш рэальна быў і рэальна рабіў на "Талацэ". Набралася (з тых, хто быў дасяжны, бо нас параскідала -- каго ў Чарнігаў, каго ў Бэльгію, каго ў Лёндан, каго нават у Аўстралію, Нямеччыну, Маскву і г.д.) каля 60 чалавек, а заля, якую арандавалі, столькі ж і зьмяшчала. Паколькі фінансаў на вялізнае памяшканьне не хапала, вырашылі зрабіць у маленькім. Мо таму і адпадзе частка частых пытаньняў кшталту "чаму вялікую залю не ўзялі? Таксама на сьвяткаваньні адбылося ўручэньне спэцыяльна зробленых дыплёмаў для талакоўцаў розных часоў і некаторых ганаровых альбо найбольш значных прыхільнікаў арганізацыі. Людзям вельмі спадабалася п'еса, а некаторым старым талакоўцам -- сьпевы, маўляў, "мы так у свой час не маглі". У цэлым большасьць нашых папярэднікаў была ўсхваляваная і ўсьцешаная тым, што мы ёсьць, і дзейнічаем, і што ня ўсё прапала. Яшчэ хацеў бы сказаць, што першы раз 25 – гэта заўсёды клясна, але ж гэта ў нас не апошняе дваццаціпяцігодзьдзе. Жыве "Талака"!

### 25 гадоў плённай працы

25 гадоў – гэта ня так ужо і шмат. Але колькі розных добрых справаў пасьпелі зрабіць талакоўцы, колькі абрадаў адрадзіць! Мала хто можа пахваліцца такімі дасягненьнямі. За 25 гадоў існаваньня арганізацыі былі і ўзьлёты і заняпады. Але “Талака”, нягледзячы ні на якія перашкоды, існуе, мае шмат сяброў і прыхільнікаў, працягвае справу на карысьць адраджэньня Беларусі. І не адно пакаленьне выдатных дзеячаў культуры вырасьціла “Талака”. Сярод іх -- праваабаронца Алесь Бяляцкі, пісьменьнік Барыс Сачанка, музыка Зьміцер Сасноўскі (гурт “Стары Ольса”).

Дасягненьнем арганізацыі можна лічыць адраджэньне шматлікіх абрадавых сьвятаў у тым выглядзе, у якім яны бытавалі на Гомельшчыне: «Гуканьне вясны», «Жаніцьба коміна», «Пахаваньне стралы», «Каляды», «Купальле» ды іншыя. Усё гэта -- вынікам доўгай і цяжкай працы над кнігамі, вандровак па вёсках і жаданьня захаваць тое, што знаходзіцца пад пагрозай зьнікненьня. А яшчэ ў арганізацыі заведзена размаўляць выключна па-беларуску, што таксама важна і прыемна! “Талака” пэрыядычна ладзіць розныя культурна-асьветніцкія імпрэзы, да якіх можа далучыцца любы ахвотны.

### Наш край

З прыходам у арганізацыю моладзі зьявіліся і новыя мэтады працы: быў запушчаны сайт Nashkraj.info, створаныя суполкі ў сацыяльных сетках (Укантакце: http://vk.com/talaka_nashkraj, Фэйсбук: www.facebook.com/talaka.nashkraj, Твітэр: www.twitter.com/talaka_nashkraj), якія займелі шмат падпісчыкаў і наведнікаў. Такім чынам, стала прасьцей даносіць да людзей інфармацыю пра “Талаку”, запрашаць на мерапрыемствы і шукаць аднадумцаў. Паводле словаў старшыні арганізацыі Яўгена Меркіса, да іх праз сайт пачалі



1. Фальклорны гурток "Талакі"
2: Ці дома Сам Пан-гаспадар?
3. На сьвяткаваньне 25-годзьдзе прыйшлі: пісьменьніцца і былая талакоўка Югася Каляда, бард і колішняя сябра "Талакі" Вальжына Цярэшчанка.
4. Талакоўцы рэканструюць беларускія абрады ("Шчодрыкі").

зьвяртацца навукоўцы з Масквы, Прыбалтыкі і нават з НАН Украіны. У талакоўцаў таксама завязаліся сувязі зь мясцовымі краязнаўцамі і ўстановамі. З прыходам новых людзей расквітнеў фальклорна-этнаграфічны кірунак: пачалі арганізоўвацца экспэдыцыі з мэтай збору духоўнай і матэрыяльнай спадчыны, што спрыяла пошуку традыцыйных песьняў, танцаў і завязваньню кантактаў, зьявіўся нефармальны талакоўскі музэй, была адроджаная "Батлейка", выйшаў на прафэсійны ўзровень сьпеўны гурток.

## Меркаваньні збоку і ня толькі:

**Яўген Меркіс** (старшыня): Безумоўна, без "Талакі" беларушчына на Гомельшчыне зьбяднела б, гэта ўсё ж факт, як ні круці. Шкада толькі, што ўжо вырасла пакаленьне L, якое, як і старэйшае, вельмі баіцца ўсяго актыўнага, думае, што мы апазыцыя і г.д. Але ёсьць і іншыя, дзякуючы якім арганізацыя квітнее. Цяпер мы глядзім у будучыню з безумоўным аптымізмам і вялізнымі плянамі, што пачнуць зьдзяйсьняцца (і працягваць зьдзяйсьняцца) ужо ў найбліжэйшы час. Катэгорыя прыхільнікаў "Талакі" таксама буйнее: у нас заўсёды зьяўляюцца і ёсьць людзі, што дапамагаюць нам у правядзеньні і падрыхтоўцы нашых мерапрыемстваў. Потым яшчэ ж ёсьць і рэгулярныя госьці. Напрыклад, на аўтэнтычным Купальлі, якому, дарэчы, па шматлікіх паказьніках няма роўных ва ўсёй краіне, сабралася аж 50 чалавек. І мы лічым, што гэта нямала. Хацелася б дадаць, што арганізацыя не застаецца паза грамадзка значнымі падзеямі рэгіёна, таму ахова і абарона той жа гістарычна-архітэктурнай драўлянай спадчыны Гомеля будзе працягвацца ў новых кірунках. Наогул трэба скончыць з культурнай монаўрбаністычнасьцю Беларусі! У нас таксама культурнае жыцьцё завірує, і мы да гэтага руку прыкладзем!

**Марыйка Суханава (прыхільніца)**: На маю думку, "Талака" – гэта вельмі цікавая справа. Удзельнікі арганізацыі займаюцца вывучэньнем, аднаўленьнем і захаваньнем гісторыі і этнаграфіі нашага краю. Усе яны – аматары справы і з задавальненьнем зьбіраюць і апрацоўваюць інфармацыю. А потым рознымі спосабамі даносяць яе да грамадзтва. Робяцца розныя імпрэзы, паказальныя выступы, сьвяткуюцца амаль забытыя народныя сьвяты, праводзяцца майстар-клясы па народных танцах, вырабе традыцыйных лялек і інш. Гэта вельмі карысная справа, каб аднавіць у нашага народа цікаўнасьць да гісторыі і культуры сваёй радзімы, каб абудзіць у людзях дух беларускасьці, бо пераемнасьць амаль страчаная.

**Зьміцер Шаўчэнка (ня так даўно даведаўся пра "Талаку")**: Усяго паўгода таму я думаў, што ў Гомелі не размаўляюць на роднай мове. Дзякуючы таму, што акунуўся ў грамадзкае жыцьцё, пачаў знаёміцца з беларускамоўнымі. І вось мяне запрасілі на імпрэзу, прысьвечаную 25-годзьдзю "Талакі". Такой канцэнтрацыі беларускай мовы я ня чуў ніколі ў жыцьці. ■

# Магілёўскія НДА:
## разнастайныя, але ня моцныя

**Павал Раманчык – пра левыя, правыя, праваабарончыя і ня толькі арганізацыі Магілёўшчыны, пра іх спробы аб’яднацца. А таксама пра тое, чаму драбнее магілёўскі сэктар НДА.**

На полі Магілёўскага трэцяга сэктару ўдалося налічыць каля дваццаці розных НДА – зарэгістраваных ці не. Дзейнасьць іх разнастайная, хоць часам і перасякаецца, а вось праблемы – адны і тыя ж.

### Абарона правоў – дзейнасьць шматлікіх НДА

Атрымаць дапамогу ў рашэньні ўласных праблемаў сёньня нескладана, бо шмат якія НДА займаюцца абаронай сацыяльных ці працоўных правоў. Калі казаць пра правы працоўных, гэтым збольшага займаюцца незалежныя прафсаюзы. У Магілёве створаныя рэгіянальныя арганізацыі Прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасьці (Прафсаюз РЭП) і свабодны прафсаюз мэталістаў. На офісе прафсаюза РЭП, напрыклад, кожны дзень працуе прафэсійны юрыст. Толькі з траўня па кастрычнік 2011 года юрыст правёў 215 кансультацый і дапамог грамадзянам вярнуць праз суды больш за 10 мільёнаў рублёў.

Што да правоў сацыяльных, у Магілёве працуе сацыяльны офіс кампаніі “Гавары праўду!”, дзе таксама можна атрымаць дапамогу прафэсійнага юрыста. Акрамя таго, кампанія “Гавары праўду” вядомая шматлікімі зборамі подпісаў пад зваротамі да дзяржаўных органаў.

Вядомая грамадзянская кампанія “Наш дом” таксама прадстаўленая офісам у Магілёве і мае дзьве каманды актывістаў. З апошняга, што зрабілі актывісты кампаніі ў Магілёве, – збор подпісаў пад калектыўнай скаргай на адсутнасьць сьвятла на тэрыторыі адной са школаў. Дарэчы, у кампаніі “Наш дом” таксама працуе юрыст, і кожны ахвотны можа атрымаць ягоную бясплатную кансультацыю праз сайт кампаніі.

Зьявілася ў Магілёве і новая мясцовая ініцыятыва, якая завецца “Імпульс”. І адразу дамаглася пэўных вынікаў. Правёўшы сход жыхароў аднаго з дамоў па праблеме недахопу паркавальных месцаў у двары дома, актывісты сабралі подпісы і накіравалі зварот у розныя дзяржаўныя органы. Трэба адзначыць, што актывісты разам з жыхарамі выпрацавалі плян, за кошт якіх земляў можна павялічыць колькасьць машынамесцаў. Напэўна, таму начальнік ЖРЭУ сабраў жыхароў дома і паабяцаў гараджанам паркоўкі.

Але ёсьць і НДА, якія займаюцца выключна праваабарончай дзейнасьцю. Гэта офісы вядомых арганізацый “Вясна” і “Беларускі Хэльсынскі камітэт”, афіцыйна зарэгістраванае грамадскае аб’яднаньне “Магілёўскі праваабарончы цэнтар”, ініцыятыва “Студэнцкі праваабарончы цэнтар”. Апошняя ініцыятыва, акрамя іншага, ладзіць паказы фільмаў, сустрэчы зь цікавымі людзьмі і шмат іншага.

### Ёсьць НДА і правыя, і левыя

Сярод магілёўскіх НДА можна вылучыць некалькі арганізацыяў правага крыла: гэта офісы “Моладзі БНФ”, Руху “За свабоду”. Лібэралы прадстаўленыя афіцыйна зарэгістраваным аб’яднаньнем “Грамадзянскі форум”, левыя – рэгіянальным аб’яднаньнем “Маладыя сацыялдэмакраты – Маладая Грамада”. Апошнія ладзяць шмат адукацыйных трэнінгаў, сэмінараў. А ў 2011 годзе яны пачалі праводзіць дабрачынную акцыю “Мы не адны” па дапамозе Магілёўскаму дзіцячаму хосьпісу.

### НДА асобных кірункаў

Працуе магілёўскі офіс Таварыства беларускай мовы, ладзіць сустрэчы і змагаецца за распаўсюджаньне роднай мовы.

Ёсьць і яшчэ адна арганізацыя, якая вельмі адрозьніваецца ад астатніх. Гэта нефармальная ініцыятыва “Рушаньне. Магілёўская лучнасьць” на чале з Валадаром Цурпанавым. Гэтую ініцыятыву можна назваць пасьлядоўнікамі філязофіі Ўладзіміра Мацкевіча. Самае адметнае зь іх дзейнасьці – правядзеньне дэбатаў.

Беларускае грамадзкае аб’яднаньне “Кропля жыцьця” створанае ў Магілёве ў 2008 годзе і займаецца пытаньнямі донарства. Гэта і абарона інтарэсаў донараў, і распаўсюджаньне ідэі донарства.

Таксама ў Магілёве працуе офіс афіцыйна зарэгістраванага моладзевага аб’яднаньня “Сустрэча”. Гэтае аб’яднаньне займаецца прафіляктыкай ВІЧ/СНІД і ІППШ (інфэкцыяў, якія перадаюцца палавым шляхам) сярод групы МСМ (мужчыны, якія маюць сэкс з мужчынамі). Кліенты “Сустрэчы” – геі, бісэксуалы і проста мужчыны, якія часам могуць мець аднаполыя кантакты – на офісе арганізацыі могуць бясплатна прайсьці кансультацыю па пытаньнях здароўя, атрымаць прэзэрватывы, любрыканты і талён на бясплатнае абсьледаваньне на ІППШ.

**Імкненьне да яднаньня**

Ідэі ствараць аб'яднаньні НДА -- ці то саюзы, ці то кааліцыі -- час ад часу паўстаюць. Хаця гэтая справа часьцяком праходзіць з рыпеньнем, захады да аб'яднаньня былі і, думаецца, будуць.

Напрыклад, арганізацыя "МОДЭС" – моладзевыя дэмакратычныя сілы. Гэтая магілёўская арганізацыя ўзьнікла яшчэ ў 2006 годзе і аб'яднала некалькі моладзевых ініцыятываў, арганізацыяў і проста грамадзян. "МОДЭС" працуе і дагэтуль, аб'ядноўвае 7 арганізацыяў-сяброў. Апошнім часам яны арганізоўвалі для сваіх чальцоў конкурс міні-грантаў.

Левыя арганізацыі Магілёва таксама спрабуюць аб'яднацца. Яшчэ ў мінулым годзе старшыня Маладых сацыял-дэмакратаў "МСД-МГ", старшыня Магілёўскай абласной суполкі БСДП (Грамада) і старшыня гарадзкой арганізацыі Прафсаюза РЭП выказалі жаданьне стварыць "Левы цэнтар".

А зусім нядаўна прыйшла навіна, што ў Магілёве ствараецца камунікацыйная пляцоўка. Гэтую пляцоўку плянуецца выкарыстоўваць для разьвіцьця супрацоўніцтва, узаемнай падтрымкі, салідарнасьці і абмену інфармацыяй паміж арганізацыямі грамадзянскай супольнасьці.

"У ідэале хацелася б, каб уся магілёўская грамадзкасьць далучылася да гэтай пляцоўкі. Толькі так можна дамовіцца пра агульныя справы. На сёньняшні дзень у Магілёве ўжо ёсьць тры ініцыятывы, якія пажадалі далучыцца да працы па стварэньні такой пляцоўкі. Гэта ініцыятыва "Рушаньне. Магілёўская лучнасьць", асацыяцыя ініцыятываў "Усходняя сталіца" і моладзевая адукацыйная ініцыятыва", -- гаворыць грамадзкі актывіст Валадар Цурпанаў, адказны каардынатар па фармаваньні гэтай пляцоўкі.



**Акцыя грамадзянскай кампаніі "Наш дом" у Магілёве, прысьвечаная Дню ведаў**

**Канфліктамі трэба ўмець кіраваць**

Канфлікталёгію выкладалі адзін час у ВНУ. Аднак, напэўна, ведаў па гэтай тэме у грамадзкіх актывістаў недастаткова. Бо час ад часу канфлікты здараюцца. Нядаўна, напрыклад, адбыўся канфлікт кіраўніцтва прафсаюза РЭП з магілёўскімі сябрамі. У выніку з гэтага прафсаюза выйшла больш за 20 чалавек, уключаючы старшыню горада. Аднак прафсаюз здолеў зноў "устаць на ногі" і пачынае набіраць абароты. Альбо, да прыкладу, кампанія "Наш дом" таксама мае дзьве каманды. Хоць яны і працуюць у адной арганізацыі, але ня вельмі сябруюць паміж сабой.

Прычыны гэткіх канфліктаў могуць быць розныя. Аднак часьцяком яны прыводзяць да драбленьня НДА. Арганізацыі зьяўляюцца новыя – але меншыя па колькасьці, а значыць, і па моцы. У гэткай сытуацыі назваць моцным магілёўскі сэктар НДА ніяк не выпадае.

**Канфлікты – не адзіная праблема НДА**

Паспрабуем вылучыць праблемы, характэрныя для магілёўскага сэктару НДА. Перш за ўсё гэта маленькая колькасьць сяброў. Па-другое, малая сувязь з мэтавай групай. Тут вылучаецца хіба што кампанія "Гавары праўду!", якая перад выбарамі-2010 пасьпела прыцягнуць да сябе ўвагу грамадзкасьці. Па-трэцяе, шматлікія НДА ня маюць уласных офісаў. І яшчэ адна вострая праблема – гэта слабае ўзаемадзеяньне са СМІ.

Ігар Барысаў, старшыня рэдакцыі "Наш Магілёў", адзначае: "Мясцовыя НДА насамрэч маюць праблему з узаемадзеяньнем са СМІ. Некаторыя ня маюць ні прэсавых службаў, ні нават прэссакратароў. Не рыхтуюць рэлізаў, часам нават ня знойдзеш кантактнай скрыні арганізацыі. Карацей, ведаў пра піяр магілёўскія НДА ў большасьці сваёй ня маюць".

Такім чынам, калі вас не згадалі ў гэтым аглядзе, задумайцеся: магчыма, вам трэба болей увагі надаваць піяру вашай НДА і вашай дзейнасьці.

**Павал Раманчык**

# Патрэба ў памежным руху:

## *Крок у Эўропу*

Крыху больш за два гады ў Берасьці дзейнічае аддзяленьне грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду". Як кажуць самі сябры берасьцейскай філіі кампаніі, галоўнаю мэтаю сталася праца з грамадзтвам, вырашэньне праблемаў людзей і ўсталяваньне кантактаў грамадзянаў з уладамі. У пачатку 2011 года кола прыхільнікаў берасьцейскага аддзяленьня "Гавары праўду" значна пашырылася. У зьвязку з гэтым была адчыненая грамадзкая прыёмная, дзякуючы якой берасьцейцам стала прасьцей зьвяртацца ў кампанію са сваімі праблемамі. У працэсе наладжваньня працы грамадзкай прыёмнай выявілася, што ініцыятыўных жыхароў горада над Бугам хвалюе праблема адсутнасьці памежнага руху паміж Польшчаю і Беларусьсю.

-- Нам слалі лісты, тэлефанавалі са шматлікімі пытаньнямі наконт таго, чаму ў нас дагэтуль няма памежнага руху з Польшчаю, – расказала актывістка "Гавары праўду" Ганна Канюс, -- і мы вырашылі зладзіць нейкую лякальную кампанію што да памежнага пераходу. Высьветлілася, што польскі і беларускі бакі падпісалі дамовы пра памежны пераход і пра спрошчаную 50-кілямэтровую памежную зону больш за год таму. Але дамова гэтая дагэтуль не рэалізаваная. Берасьцейцаў цікавіць, што і да чаго. І ў нас нарадзілася ідэя зладзіць лякальны праект, каб зьвярнуць увагу нашай краіны на патрэбнасьць актывізацыі памежнага руху.

Праект атрымаў назву "Крок у Эўропу" – самі актывісты растлумачылі невыпадковасьць назвы: "Берасьцейцы заўсёды ў Эўропу імкнуліся". Акрамя імкненьня ў Эўропу жыхароў горада над Бугам зьвязваюць з памежнай тэрыторыяй Польшчы гістарычнае мінулае і сацыякультурныя адносіны. Крочыць у Эўропу – гэта значыць ня толькі вандраваць і рабіць закупы, але і магчымасьць камунікаваць з роднымі і знаёмымі з памежных тэрыторыяў, разьвіваць прадпрымальніцкую дзейнасьць, рабіць культурніцкія абмены, пашыраць рэалізацыю канфэсійных правоў.

За час існаваньня праекту было сабрана крыху больш за 2200 подпісаў за ўступленьне ў сілу дзеяньня дамовы аб малым памежным руху. Актывісты спрабавалі прыцягнуць увагу грамадзкасьці да праблемы з дапамогаю акцый і круглых сталоў. Таксама сябрамі арганізацыі былі пададзеныя тры заяўкі на пікетаваньне ў гарадзкі выканаўчы камітэт, аднак ніводная зь іх не была задаволеная.

Беларускі бок дамову абяцае ўхваліць. Польскі бок, у сваю чаргу, завяршыў працэдуру яшчэ ў 2010 годзе і пакінуў справу за афіцыйным Менскам.

-- Для памежнага рэгіёна такі рух вельмі важны. Інвэстыцыі, якіх так чакаюць нашыя ўлады, прыходзілі б на гэтую тэрыторыю, і ўздымаўся б узровень жыцьця грамадзянаў. На жаль, пакуль мы бачым толькі актывізацыю прадпрымальнікаў зь Бялай Падляскі, што хадайнічаюць перад Беларусьсю, каб такі памежны рух зьявіўся. У нас зацікаўленых асобаў з боку дзяржавы я не назіраю. Але мы плянуем аддаць сабраныя намі па гэтай праблеме подпісы мясцовым уладам, каб яны зразумелі, што праблемы існуюць і людзі хочуць



вырашаць іх, яны хочуць выяжджаць у Польшчу, -- дадала Ганна Канюс.

Актывісты плянуюць накіраваць подпісы са зваротам у берасьцейскі гарадзкі выканаўчы камітэт і берасьцейскі гарадзкі савет дэпутатаў з просьбаю аб судзейнічаньні ў рэалізацыі Закона Рэспублікі Беларусь “Аб ратыфікацыі дамоваў паміж урадамі Рэспублікі Польша і Рэспублікі Беларусь аб правілах памежнага руху”. Дамова аб малым памежным руху была падпісаная ў лютым 2010 года міністрамі замежных справаў Польшчы і Беларусі. Для жыхароў памежнай зоны, а менавіта населеных пунктаў, што ўваходзяць у 50-кілямэтровую памежную зону, сама дамова азначае спрошчаны парадак перасячэньня мяжы. Згодна з дадзеным законам, новымі правіламі змаглі б карыстацца грамадзяне, што стала пражываюць на гэтых тэрыторыях ня менш за тры гады. Закон прадуглежвае знаходжаньне на тэрыторыі краіны-суседкі цягам 90 дзён на паўгода. Тэрмін дзеяньня такога дакумэнта складзе ад аднаго да пяці гадоў і будзе каштаваць 20 эўра.

Прывяздзеньня ў жыцьцё дамовы чакаюць 1 мільён 700 тысяч жыхароў памежных зонаў Беларусі і Польшчы.

Для параўнаньня, зь лютага 2012 года плянуецца зладзіць спрошчаную магчымасьць перасячэньня беларуска-латвійскай мяжы. Тэрмін такой магчымасьці паміж Польшчай і Беларусьсю афіцыйна застаецца пакуль нявызначаным. Беларускі бок спасылаецца на тэхнічныя праблемы забясьпечаньня ратыфікаванай дамовы.

Праект “Крок у Эўропу” рэалізуецца актывістамі грамадзянскай кампаніі “Гавары праўду” і ў памежнай з Польшчаю Горадняй. Гарадзенскія актывісты, як і іх берасьцейскія сябры, праводзяць круглыя сталы, акцыі, пішуць звароты да ўладаў. Аднак гарадзенскія ўлады пакуль не рэагуюць станоўча на такую ініцыятыву.

■

**Аліса Поль, Берасьце**

# Грамадзянская супольнасьць ва Ўкраіне вачыма кіроўнае клясы:

## *дысананс па форме і па зьмесьце*




**акцыі чарнобыльцаў разагнаў "Беркут"**

Наяўнасьць грамадзянскіх свабодаў і разьвіцьцё грамадзкага сэктару былі дасягненьнямі Памаранчавай рэвалюцыі, якія змаглі трывала ўмацавацца ва ўкраінскім грамадзтве. Ня надта аптымістычныя эканамічныя пэрспэктывы як вынік недальнабачнасьці палітычнай эліты на чале зь Віктарам Ючанкам былі збалянсаваныя правам свабодна гаварыць і дэманстраваць сваю грамадзянскаю пазыцыю. І гэта сталася вялікай каштоўнасьцю.

Памятаю, нават хадзіў у тыя гады досьціп пра бадзяжнага сабаку, які папрасіўся ў памежнікаў перайсьці ўкраінска-беларускую мяжу, бо ва Ўкраіне даводзілася жыць надгаладзь. Тыя, зьлітаваўшыся, прапусьцілі бедную жывёліну, але былі зьдзіўленыя, калі празь месяц сабака вярнуўся назад з тлумачэньнем, што "жэрці там даюць, але асабліва не пабрэшаш".

З прыходам у 2010 годзе да ўлады новай-старой каманды Віктара Януковіча сытуацыя пачала зьмяняцца. Ня ў лепшы бок. Па форме ўсё дагэтуль можа выглядаць як стабільнасьць майданавай дэмакратыі, калі можна ўсё і заўсёды. Але па зьмесьце сытуацыя пры новай палітычнай рэальнасьці кардынальна адрозьніваецца ад умоваў, што ствараліся папярэднікамі. Гэта дзьве вялікія розьніцы, як кажуць у Адэсе.

У публічнай плоскасьці каманда Януковіча зрабіла некалькі крокаў, закліканых пераканаць украінскую грамадзкасьць, што ўлада вельмі цікавіцца праблемамі разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці.

У лістападзе 2010 года быў выдадзены Ўказ прэзыдэнта аб стварэньні грамадзкіх радаў пры органах выканаўчай улады ўсіх узроўняў. У пачатку 2011 года гэ-

тыя кансультацыйныя інстытуты былі сфармаваныя амаль пры ўсіх міністэрствах і ведамствах, абласных і раённых дзяржаўных адміністрацыях. Усяго па стане на восень 2011 года такіх радаў было створана каля 5 тыс. па ўсёй Украіне.

Празрыстасьць дзеяньняў улады мела была яшчэ больш павялічыцца ў выніку прыняцьця закону "Аб доступе да публічнай інфармацыі", які значна спрашчае працэдуры атрыманьня інфармацыі ад органаў улады. Згодзен, што ініцыятывы правільныя, бо грамадзкія рады мінулых гадоў ня выканалі функцыі ўключэньня грамадзкасьці ў працэс прыняцьця рашэньняў. Аднак узьнікаюць пэўныя сумневы ў тым, што гэтыя крокі былі зробленыя менавіта з добрых памкненьняў.

Ёсьць і іншыя прыклады з гэтай жа сэрыі. На дадзены момант у Адміністрацыі прэзыдэнта распрацоўваецца Стратэгія разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці, дзе будуць заплянаваныя пэўныя крокі. Але чаму распрацоўка гэтай стратэгіі адбываецца амаль у поўнай сакрэтнасьці? Можа, таму, што гэтая стратэгія настолькі прагрэсіўная і прарыўная, што дазволіць грамадзянскай супольнасьці стаць ля стырна дзяржавы? Сумняюся.

Вось толькі адзін прыклад з праектам закону "Аб грамадзкіх арганізацыях". Прыняты ў першым чытаньні яшчэ ў траўні 2011 года, ён не прайшоў другое чытаньне да гэтага часу. Яно і зразумела: калі на парадку дня стаяла пытаньне аб выбарах у парлямэнт у патрэбным для ўлады варыянце, то навошта валаводзіцца з грамадзкімі інтарэсамі.

А між тым законапраект перадугледжваў шэраг вельмі своечасовых і неабходных зьменаў:

- спрашчэньне працэдуры рэгістрацыі арганізацыі, адмена абавязковага тэрытарыяльнага статуту;

- дазвол ствараць грамадзкія арганізацыі, якія будуць дзейнічаць у інтарэсах усяго грамадзтва, а ня толькі сваіх чальцоў;

- дазвол на вядзеньне гаспадарчай дзейнасьці грамадзкімі арганізацыямі з далейшым выкарыстаньнем зробленых грошай на статутную дзейнасьць, што можа паменшыць залежнасьць ад замежнага фінансаваньня.

Дарэчы, менавіта праблема падрыхтоўкі вэртыкалі ўлады да выбараў у Вярхоўную Раду Ўкраіны ў 2012 годзе зьяўляецца той лякмусавай паперкай, якая паказвае праўдзівае стаўленьне ўладаў да грамадзянскай супольнасьці і грамадзкіх арганізацыяў як найболей актыўных структурных элемэнтаў гэтага грамадзтва.

Падчас абмеркаваньня выпрацаванага ўладай законапраекту аб выбарах у Вярхоўную Раду быў створаны Грамадзкі кансорцыюм выбарчых ініцыятываў, чальцы якога ўвайшлі ў склад працоўнай групы па дапрацоўцы праекту. Аднак выявілася, што ўдзел грамадзкіх экспэртаў патрэбны быў для ўлады ў якасьці "мэблі", а іх прапановы і рэкамэндацыі насамрэч мала каго цікавілі і цікавяць. Так, былі ўлічаныя прапановы па павелічэньні правоў назіральнікаў ад грамадзкіх арганізацыяў. Але сама ідэалёгія новага закону дэструктыўная для палітычнай сыстэмы краіны. Больш за тое, прадстаўнікі СМІ, блізкія да калідораў улады, ужо спрабавалі ўзьняць вэрхал вакол акцыі "Фільтруем парлямэнт", якую зьбіраліся правесьці вядомыя ўсеўкраінскія арганізацыі ў сфэры выбарчай экспэртызы, мэдыяў і адвакатуры. Гаворачы мовай паліттэхнолягаў, грамадзкасьці паспрабавалі зрабіць прышчэпку. Чапурыстасьць падыходу выклікае ўсьмешку, аднак трэба разумець, што насамрэч для прадстаўнікоў улады грамадзкія арганізацыі -- гэта ворагі, бо блытаюцца пад нагамі ў той час, калі камусьці трэба ўпэўнена ісьці па шляху асабістага ўзбагачэньня за кошт дзяржаўных рэсурсаў.

Што адбываецца з апазыцыйнымі лідэрамі ва Ўкраіне, расказваць ня мае сэнсу. Самі ўсё ведаеце.

Таму выснова напрошваецца сама: форму ўлада спрабуе захаваць, а вось зьмест... Паводзіны цяперашняй украінскай эліты ў дачыненьні да грамадзянскай супольнасьці нагадваюць працэс вырабу пудзіла. Быццам бы здалёку нешта падобнае да жывой істоты, а есьці ня просіць і жыць не замінае. Ідэальны варыянт для аўтарытарнага рэжыму, які пачынае ўмацоўвацца. Ідэальны, але маларэальны.

На шчасьце, грамадзкія арганізацыі навучыліся выразна артыкуляваць пазыцыю ня толькі сваю асабістую, але і выступаць як групы інтарэсаў. Звароты да прадстаўнікоў эўрапейскіх інстытутаў адносна неабходнасьці парафіраваньня дамовы аб асацыяцыі паміж ЭЗ і Ўкраінай ёсьць яскравым таму прыкладам.

Наступны год вельмі цяжкі для Ўкраіны. Год выбараў. Высакосны год. Год выбару хутчэй нават цывілізацыйнага, чым ідэалягічнага. Вельмі спадзяюся, што грамадзянская супольнасьць зможа мабілізавацца і зрабіць правільны выбар.

■

**Генадзь Максак, кіраўнік "Палескага фонду міжнародных і міжрэгіянальных дасьледаваньняў", каардынатар усеўкраінскіх грамадзкіх ініцыятываў Грамадзянскай асамблеі Ўкраіны і Сеткі падтрымкі рэформаў па Чарнігаўшчыне.**




# Ня кожны прэс-рэліз цікавы для прэсы

***Больш за палову прэс-рэлізаў, якія я атрымліваю, я пакідаю без увагі.***












А некаторыя ўвогуле выдаляю ў сьметніцу, нават не чытаючы, бо ведаю: з гэтых арганізацыяў наўрад ці дашлюць нешта цікавае. А калі там і будзе нейкае рацыянальнае зерне, то знайсьці яго сярод раскі ў вадзе складана.

**Афармляць матэрыялы трэба як мага прасьцей**

Напрыклад, я часьцей пачаў выкарыстоўваць інфармацыю, якую дасылаюць з адной арганізацыі культурнага кірунку, што ладзіць розныя выставы і імпрэзы. На іхнія мерапрыемствы заходжу рэдка, але напісаць кароткую нататку па іхняй інфармацыі заўжды можна. Ды вось бяда -- я, як і шмат сёньняшніх журналістаў, лянівы. Хачу, каб перада мной быў тэкст, зь якім ня трэба шмат працаваць. Скапіяваў, уставіў, адрэдагаваў і адаслаў. Але з культурнай арганізацыі, пра якую кажу, заўсёды прыходзілі прэс-рэлізы, забагата аформленыя. З фонавымі малюнкамі і рознымі ўпрыгожаньнямі, са шрыфтамі разнастайных стыляў і памераў. Каб зрабіць толькі тэхнічную апрацоўку такога ліста, патрэбны час. А калі інфармацыя ня важная і на чарзе яшчэ некалькі прэс-рэлізаў, зь якімі клопату меней... Карацей, неяк я напісаў адказ у тую ўстанову і параіў не старацца ў афармленьні наступных лістоў. Журналісту гэта ня трэба. Ягоную ўвагу гэтым не прыцягнеш. Ва ўстанове са мной пагадзіліся, і супрацоўніцтва пайшло лепей.

З гэтай жа прычыны журналісты ня любяць, калі прэс-рэлізы дасылаюць факсам. Перабіраць на клявіятуры літары, ад якіх і так стракаціць уваччу, -- непрыемная справа, і мала хто хоча за яе брацца. Толькі калі інфармацыя важная для журналіста. Таму парада: дасылайце прэс-рэлізы ў прымацаваных вордаўскіх файлах на электронныя скрынкі. Каб журналісту заставалася толькі некалькі разоў клікнуць мышкай. У гэтым выпадку маеце большы шанец, што вашая інфармацыя зьявіцца ў друку.

**Што, дзе, калі – але не «чаму»**

Часта ня бачу сэнсу наведваць мерапрыемствы, калі ў прэс-рэлізе, якім анансуюць падзею, ужо ўсё сказана. Таму парада для арганізацыяў: калі вам важна, каб журналіст прыйшоў да вас, не расказвайце яму ў прэс-рэлізе занадта шмат. Заінтрыгуйце! Журналіста можна зацікавіць, калі

паведаміць, што на мерапрыемства запрошаны шэраг важных пэрсонаў, якія гатовыя адказаць на пытаньні прэсы. Знайдзіце ў падзеі, якую арганізоўваеце, нешта арыгінальнае. Сучасныя людзі настолькі перанасычаныя разнастайнай інфармацыяй, што іх цяжка нечым зьдзівіць. Журналіст гэта разумее, таму шукае тое, чаго раней не здаралася – прэцэдэнт. Напрыклад, напярэдадні Калядаў і Новага года шмат арганізацыяў зьбіраюць падарункі і ахвяраваньні для дзяцей з прытулкаў. Гэта цудоўна, але ўжо мала каго кранае. Таму прэса раскажа пра акцыі тых арганізацыяў, што былі найбольш крэатыўнымі.

Але, безумоўна, ня варта забывацца пра тое, што базавая інфармацыя, якая адказвае на галоўныя пытаньні: "Што? Дзе? Калі?", павінная быць абавязкова. А на пытаньні «як», «чаму» і «які вынік» адказы можна пакінуць на потым. Занадта каротка паведамляць пра падзею таксама ня варта: трэба сказаць, зь якой мэтай ладзіцца мерапрыемства, і мінімальныя падрабязнасьці.

Іншая акалічнасьць, якая можа прывесьці да вас журналіста, – удзел у акцыі вялікай колькасьці людзей. Бо там, дзе грамада, павінен быць і карэспандэнт. Таму можаце запрасіць да ўдзелу ў вашым мерапрыемстве дзіцячыя садкі, школы, працоўныя калектывы і паведаміць пра гэта ў прэс-рэлізе.

Добра падумайце, ці было б вам асабіста цікава даведацца пра тое, што вы прапаноўваеце для друку. Калі б вы ўбачылі па тэлевізіі такі рэпартаж, ці наткнуліся на артыкул па гэтай тэме ў газэце, што б вы зрабілі? Пераключылі б канал ці не? Сталі б чытаць артыкул? У выпадку, калі сумняецеся, прадумайце плян свайго мерапрыемства лепей. Зьмяніце або дадайце ў яго тое, што было б сапраўды цікава. Бо менавіта такім чынам выбіраюць тэмы для сваіх публікацыяў прафэсійныя рэдактары. Вы лепш зразумееце, якой павінная быць ваша падзея і як прыцягнуць да яе ўвагу журналістаў, калі задасьце аналягічныя пытаньні сваім калегам, сябрам, родным. Ці было б ім цікава даведацца пра тое, пра што зьбіраецеся інфармаваць вы?

Таксама варта прадумаць, каму вы дасылаеце прэс-рэліз – тэлежурналістам, газэтным рэпарцёрам або журналістам інтэрнэт-старонак. У першым выпадку вы павінныя памятаць пра правілы тэлевізійнікаў: іхні матэрыял павінен быць паказаны раней, чым чытачы ўбачаць артыкул на тую ж тэму ў газэтах. Таму тэлерэпартаж павінен выйсьці ў эфір у дзень падзеі. А каб тэлевізійнікі змаглі пасьпець гэта зрабіць, у іх павінен быць час.

***...журналісты ня любяць, калі прэс-рэлізы дасылаюць факсам. Перабіраць на клявіятуры літары, ад якіх і так стракаціць уваччу, – непрыемная справа.***



Як правіла, каб рэпартаж трапіў у апошні вечаровы выпуск навінаў, здаць рэдактару змантаваны і агучаны ролік карэспандэнт павінен у канцы працоўнага дня. Працаваць зь відэа даводзіцца шмат, таму не плянуйце падзею на пасьляабедзенны час, лепей, каб да 12-13 гадзін мерапрыемства ўжо адбылося.

Калі ж для вас не абавязковая прысутнасьць журналістаў, а важна толькі, каб у прэсе была апублікаваная інфармацыя пра вас, паклапаціцеся, каб яна была падрабязнай. Дадайце некалькі абзацаў са зьвесткамі пра арганізацыю і яе дзейнасьць. Калі ёсьць ілюстрацыі, фотаздымкі да падзеі – цудоўна. Немагчыма падрыхтаваць іх загадзя – паабяцайце апэратыўна даслаць, калі падзея адбудзецца.

Не забудзьцеся пакінуць кантакты на той выпадак, калі журналіст захоча нешта ўдакладніць. Лепей дадаць і мабільныя тэлефоны канкрэтнай кампэтэнтнай асобы.

**Важныя асабістыя стасункі з журналістам**

Яшчэ адно важнае пытаньне: як вы шукаеце адрасы журналістаў, якім будзеце дасылаць свой прэс-рэліз. Безумоўна, на сайтах газэт, тэле- і радыёканалаў, інтэрнэт-выданьняў ёсьць кантакты рэдакцыяў. Але, пакідаюць там, як правіла, агульныя адрасы. Уявіце, колькі штодня інфармацыі, а таксама спаму прыходзіць на гэтыя электронныя скрынкі! Ваш ліст могуць проста не заўважыць. Таму чарговая парада: наладжвайце стасункі з канкрэтнымі журналістамі, зь якімі будзеце стала працаваць. І кожны раз дасылайце інфармацыю гэтай канкрэтнай асобе. Прасіце паведамляць, калі журналіст пойдзе ў адпачынак, паедзе ў доўгую камандзіроўку ці захварэе, каб у гэтых выпадках ён пераадрасаваў вас да свайго калегі. Зразумела, што не пра ўсе вашыя мерапрыемствы журналіст зможа пісаць кожны раз. Але ён будзе больш настойліва прапаноўваць вашыя тэмы рэдактару, калі будзе мець з вамі трывалыя, амаль сяброўскія стасункі, будзе перажываць за вашую працу. Найлепшы варыянт, калі вашая справа стане агульнай. Таму ўцягніце яго ў вашую дзейнасьць! Прапаноўвайце часьцей заходзіць да вас на гарбату. Калі ёсьць магчымасьць, накіроўвайце журналіста на сэмінары, якія ладзіце вы ці вашыя партнэры.

І апошняя парада: будзьце творцам або пастаўце на працу з прэс-рэлізамі творчага, пісьменнага, абазнанага чалавека. Тады ўсё атрымаецца! ■

**Сьцяпан Пятроўскі**




# Пісьменны пароль

Андрэй Толчын

У гэтым артыкуле я хачу расказаць чытачам, як можна абараніць сябе ад непрыемнасьцяў падчас працы на кампутары. Я не зьбіраюся нашпігоўваць тэкст рознымі «правільнымі» тэрмінамі і іншымі вынаходкамі, зразумелымі вузкаму колу кампутарных гуру. Усё, пра што я зьбіраюся расказаць, заснавана на шматгадовым практычным досьведзе чалавека, які прайшоў дарогу ад «чайніка» да сыстэмнага адміністратара. Такім чынам, пачнем.

Адразу варта зазначыць, што пытаньне бясьпечнай працы на кампутары вельмі шырокае і ахоплівае шмат аспэктаў, якія апісаць у межах аднаго артыкула немагчыма. Таму абмяжуюся агульнымі прынцыпамі для абароны ў цэлым, але падрабязна раскажу пра адзін з бакоў, а менавіта пра стварэньне моцных пароляў, а таксама зручнага і надзейнага іх захаваньня.

Узровень бясьпекі і спосабы яе рэалізацыі залежаць ад каштоўнасьці, якую інфармацыя ўяўляе для карыстальніка і магчымага зламысьніка. Скажам, у банкаўскіх і ўрадавых інфармацыйных сыстэмах гэта дарагі комплекс праграмна-апаратных сродкаў абароны, але, тым ня менш, часам і гэта не засьцерагае іх ад замахаў зламысьнікаў. Прыкладаў таму ёсьць дастатковая колькасьць.

Адсюль вынова: абсалютнай абароны ў прыродзе няма і ня можа быць. Усё залежыць ад каштоўнасьці інфармацыі, якую мы захоўваем.

Прымальным узроўнем абароны лічыцца такі, пры якім сродкі зламысьніка выдаткоўваюцца большыя, чым каштуе сама інфармацыя.

> ***Звычайна карыстальнікі ствараюць паролі досыць простыя, якія лёгка расшыфроўваюцца нават без дапамогі якіх-небудзь праграмаў***

Да прыкладу, можна наняць кучу спэцыялістаў, задзейнічаць цэлую сетку кампутараў для падбору пароля да файла або паштовай скрыні, а ў выніку атрымаць запіску ў выглядзе тэкставага файла са зьместам: «Ну як? Доўга парыўся?» Адсюль вынікае, што найбольш каштоўным для нядобразычліўцаў будзе пароль, скажам, да вашага кампутара, файла, паштовай скрыні, скайпа, аські, рахунку, гульнявога акаўнта і г.д.

Які пароль можна лічыць больш-менш надзейным? Тут перад намі стаіць ня простая і часам супярэчлівая задача. З аднаго боку, ён павінен быць складаным, зь другога -- мы павінныя яго добра памятаць. Больш за тое, як правіла, нам не даводзіцца абмяжоўвацца адным паролем, бо цяпер кожны карыстальнік мае не адну паштовую скрыню, доступ у сацыяльныя сеткі, скайп і г.д. Гэта азначае, што задача яшчэ больш ускладняецца, бо пажадана да кожнага сэрвісу мець унікальны і складаны пароль. Яго трэба прыдумаць і запомніць.

Звычайна карыстальнікі ствараюць паролі досыць простыя, якія лёгка расшыфроўваюцца нават без дапамогі якіх-небудзь праграмаў, а проста зыходзячы з асабістых дадзеных. Напрыклад, імя, прозьвішча, даты нараджэньня, нумары тэлефонаў і ўтвораныя ад іх камбінацыі. Адразу скажу, што гэта непрымальна.

Часам зьвяртаюцца да больш складанага спосабу, як набор фраз на іншай мове, але пры ангельскай раскладцы клявіятуры. Гэта выглядае прыблізна так: «LJ, hsqltymcnhfyf». Калі прыгледзецца да знакаў, то без усякай праграмы можна выявіць парольную фразу на рускай раскладцы клявіятуры, а

менавіта «добрыйденьстрана». Лёгка быццам бы запомніць, але і гэтак жа лёгка расшыфраваць. Можна, вядома, дадаваць лічбы, але тут шмат чаго ня зьменіцца.

Ёсьць яшчэ такая нязручнасьць, як адсутнасьць рускай раскладкі клявіятуры. Напрыклад, вы ў камандзіроўцы, і трэба выйсьці ў скайп, а ў інтэрнэт-кавярні клявіятура толькі з лацінкай.

Найбольш складанымі і прымальнымі паролямі лічацца тыя, у якіх ёсьць камбінацыя вялікіх і маленькіх літараў разам зь лічбамі і па магчымасьці адмысловымі знакамі. Больш за тое, пажадана, каб яны насілі як мага больш выпадковы характар. Можна запярэчыць, што такія камбінацыі складана прыдумляць, ня кажучы пра тое, што на іх лёгка забыцца.

Каб адчуваць сябе ўпэўнена і камфортна, а зламысьніку максымальна ўскладніць задачу доступу да канфідэнцыйных дадзеных, трэба скарыстацца асацыяцыйным шляхам складаньня пароля. Што гэта значыць? Растлумачу на прыкладзе.

Возьмем вось такі пароль: % 0 @ RbI / \ / ^% 6 | - | б $ TR !|-|!.

Ён досыць надзейны і складаны. Па-першае, тут 24 знакі, па-другое, ёсьць вялікія і маленькія літары, спэцыяльныя сымбалі і лічбы, патрэцяе, выкарыстоўваюцца літары лацінскага альфабэту, пры гэтым уся гэтая камбінацыя прыдуманая шляхам зрокавай асацыяцыі і... лёгка запамінаецца.

Асноўная перавага ў гэтым паролі -- асацыяцыя. У кожнага чалавека яна свая. Тлумачу: сымбаль % у мяне асацыюецца зь літарай Д, бо яна пятая ў альфабэце, а на клявіятуры пры націсканьні разам з клявішай Shift (Shift +5) якраз друкуецца гэты знак. 0 асацыюецца з літарай О. @ -- гэта літара Б, бо яна другая ў альфабэце і пры камбінацыі Shift +2 друкуецца сымбаль @. R -- гэта проста кірылічнае Р. Ангельскія літары BI асацыююцца з рускай Ы. Камбінацыя слэшу / \ / і знаку ^ (Shift +6) дае / \ / ^ і ў мяне асацыюецца з рускай літарай Й. Літара Е -- шостая ў альфабэце і, натуральна, гэта лічба 6. Камбінацыя клявішаў Shift + /, працяжнік, Shift + / дало мне знак | - | фактычна літару Н. Лацінская b -- мяккі знак.

Літару С я асацыяваў са спэцыяльным сымбалем $. А літару А -- з клічнікам, таму што яна першая ў альфабэце і пры націску Shift +1 друкуецца гэты знак. Фактычна ў выніку атрыманы надзейны пароль, і ён лёгка запамінаецца. Гэта тая ж вышэйпрыведзеная фраза «добрыйденьстрана». Толькі яна набыла зусім новае аблічча: % 0 @ RbI / \ / ^% 6 | - | б $ TR !|-|! і стала значна больш надзейнай.Аднак у людзей розныя асацыяцыі, таму і паролі будуць унікальнымі.

Але тут узьнікае праблема: пароляў трэба шмат, і можна проста заблытацца ў сваіх асацыяцыях. Каб гэтага не адбылося, існуе праграмнае забясьпечаньне, якое дазваляе прыдумаць адзін унікальны пароль для ўваходу ў яго, а потым яно само будзе прыдумляць і захоўваць вашыя паролі.

Адразу трэба сказаць, што выкарыстоўваць варта бясплатна распаўсюджаныя праграмы з адкрытым кодам. Выкарыстоўваць узламаныя праграмы з закрытымі кодамі не рэкамэндую, таму што нам невядомыя магчымасьці праграмы і іх шчыліны. Тым больш калі іх актывуюць або ламаюць хакеры, то існуе вялікая верагоднасьць атрыманьня разам з пажаданай праграмай шкоднае праграмнае забясьпечаньне: вірус, траян, клявіятурны шпіён.

Асабіста я аддаю перавагу праграме KeePass, якую можна лёгка запампаваць па адрасе http://keepass.info/. Гэта праграма з адкрытым кодам, бясплатная і дазваляе працаваць ня толькі знаўцам ангельскай, але і на беларускай і рускай мовах. Пераклад на іншыя мовы можна ўзяць там жа па адрасе http://keepass.info/translations.html.

Сьцісла раскажу пра прынцыпы абароны кампутара. Асноўны прынцып -- максымальна ўскладніць доступ да кампутара выпадковым карыстальнікам.

Першай лініяй абароны зьяўляецца BIOS сыстэмнага блёку. На яго і загрузку сыстэмы неабходна ставіць пароль. Там жа ў BIOS неабходна адключыць магчымасьць загрузкі кампутара з усіх носьбітаў акрамя сыстэмнага дыска (вінчэстэра), а таксама адключыць магчымасьць абнаўленьня самога BIOS. Як зайсьці ў BIOS і як усё гэта выканаць, расказваецца ў дададзеным да кампутара кіраўніцтве карыстальніка.

Другая ступень абароны -- пароль на саму сыстэму. Аднак неабходна ўлічыць, што гэтыя першыя прыступкі абароны зусім не гарантуюць бясьпеку ад уварваньня. Яны проста абцяжарваюць доступ да інфармацыі выпадковым людзям у офісе ці дома.

Калі хтосьці завалодаў на якую-небудзь гадзіну вашай машынай і мае навыкі прасунутага карыстальніка, то яму будзе няцяжка пракрасьціся ў кампутар і скарыстацца інфармацыяй, якая яго цікавіць.

Асноўным прынцыпам абароны інфармацыі зьяўляецца шыфраваньне, а яшчэ лепш -- захоўваньне канфідэнцыйнай шыфраванай інфармацыі на зьменным носьбіце ці ў абароненай надзейным паролем паштовай скрыні.

Больш падрабязна пра аспэкты кампутарнай бясьпекі з пункту гледжаньня карыстальніка я раскажу ў наступных нумарах выданьня.

*Хай не падвядзе вас пароль.*



Нэля Лаўрыненка

# Грамадзкая актыўнасьць ва Ўкраіне

## на прыкладзе дзейнасьці Суполкі ўкраінскай моладзі

***У дадзены момант нашая арганізацыя рэалізуе мноства праектаў выхаваўчага напрамку.***

**Гісторыя**

Я прадстаўляю Ўсеўкраінскую моладзевую арганізацыю "Суполка ўкраінскае моладзі ва Ўкраіне" (далей – СУМ), якая ўзьнікла ў далёкім 1925 годзе. Менавіта тады ў Кіеве маладыя сябры СУМ не захацелі прызнаць паразу вызвольных змаганьняў 1917–1920 гг. і акупацыю Ўкраіны чатырма варожымі дзяржавамі: бальшавіцкай Расіяй, Польшчаю, Румыніяй і Чэхаславаччынай. СУМ падзялялася на невялікія групы па 5 асобаў. Такая структура ў выпадку арышту аднаго з падпольшчыкаў пакідала іншыя суполкі недасяжнымі для спэцслужбаў. Аднак у 1929 годзе СУМ была выкрытая савецкімі органамі дзяржбясьпекі. Адраджэньне "Суполкі ўкраінскай моладзі" пачалося ў канцы 1980-х, калі ўзьнялася новая хваля барацьбы за незалежнасьць. Пасьля абвяшчэньня незалежнасьці ў 1991 годзе суполка засяроджваецца ў асноўным на выхаваньні моладзі.

У дадзены момант нашая арганізацыя рэалізуе мноства праектаў выхаваўчага напрамку. Згадаю ў якасьці прыкладу тры найбольш яскравыя:

1. "Сьвяты Мікола вандруе па Ўкраіне". Гэты праект праводзіўся з 2007 па 2010. Мэта – дапамагаць дзецям, якія маюць у гэтым патрэбу, адчуваць радасьць сьвята Сьвятога Міколы, працягваць даўнія ўкраінскія традыцыі гуманізму і міласэрнасьці. У рэалізацыі праекту бралі ўдзел асяродкі Кіева, Чарнігава, Хмяльніцкага, Львова, Тэрнопаля, Днепрапятроўска, Сквыры, Тэльманава. Нашыя актывісты наведвалі дзіцячыя дамы. Праект рэалізоўваўся супольна з моладзевай хрысьціянскай арганізацыяй "Вітанія", прадстаўнікамі сярэдняга бізнэсу, Міжнародным дабрачынным фондам "Украіна 3000", дабрачынным фондам "Прыяцелі дітей" і Ўкраінскай праваслаўнай царквой.



**Сьвята, арганізаванае Цэнтрам разьвіцьця дзіцяці "Анёлак" для дзяцей з абмежаванымі магчымасьцямі**

2. Праект "Суўдзел" рэалізуецца ў лістападзе штогод, пачынаючы з 2006 г. Мэта праекту – умацаваньне духоўнай еднасьці з тымі пакаленьнямі ўкраінцаў, якія пацярпелі ў часы Вялікага Голаду і тэрору. Кожны, хто пагадзіўся ўзяць удзел у гэтай акцыі, бярэ на сябе абавязак трымаць суворы пост, без ужываньня ежы, цягам 33 гадзінаў (ад 7-й гадзіны 25 лістапада да 16-й 26 лістапада). Такая сымбалічная акцыя будзе асабістай ахвяраю кожнага з нас дзеля памяці бязьвінна загінулых ад голаду 1933 года. Вельмі важна, каб гэтая ахвяра была сьвядомай, а не мэханічнай. Да ўдзелу запрашаюцца выключна асобы, якія дасягнулі 18 гадоў і ня маюць мэдычных супрацьпаказаньняў да добраахвотнай галадоўкі.

**Добрая справа**

Цягам 33 гадзінаў удзелу ў акцыі кожны яе ўдзельнік можа зрабіць добрую справу, мэтаю якой ёсьць дапамога бліжняму, што мае ў гэтым патрэбу. Гэта можа быць міласьціна, ахвяраваньне на дзіцячы дом. Кожны мае права выбраць самастойна, якую добрую справу зрабіць і куды накіраваць свае высілкі.

3. Праект "Маладая грамада" дзейнічае ўжо 4 гады і скіраваны на актывізацыю грамадаў што да вырашэньня іх праблемаў шляхам навучаньня, падтрымкі



Цэнтар разьвіцьця дзіцяці “Анёлак”: упрагожаньне елкі



Летнікі моладзевай арганізацыі “Суполка ўкраінскае моладзі ва Ўкраіне”

ініцыятываў праз конкурс малых грантаў, правядзеньня стажыровак у пасьпяховых грамадах, грамадзкіх арганізацыях.

**Мой асабісты прыклад**

Асабіста я займаюся ажыцьцяўленьнем праекту сваёй мары ў галіне дашкольнага выхаваньня, які называецца “Цэнтар разьвіцьця дзіцяці “Анёлак”. Ідэя стварэньня Цэнтру разьвіцьця дзіцяці была прадыктаваная праблемай дашкольнай асьветы ва Ўкраіне. Вярхоўная Рада адным са сваіх законаў увяла абавязковую дашкольную асьвету для дзяцей старэйшага дашкольнага веку. Кожнае дзіця ва ўзросьце 5 гадоў павіннае прайсьці падрыхтоўку да школы. Але закон уступіў у супярэчнасьць з нашай рэчаіснасьцю: у канцы 1990-х частку дзіцячых садкоў у Чарнігаве закрылі з прычыны спаду нараджальнасьці. Большая частка памяшканьняў была перададзеная ў арэнду дзяржаўным альбо прыватным структурам. Іншыя перадалі пад дзіцячыя клюбы (на сёньня функцыянуе 40%, рэшта зачыненая празь недахоп фінансаваньня), музычныя школы і гэтак далей. І хаця органы ўлады адсочваюць час арэнды, ніводзін дзіцячы садок яшчэ не аднавіў сваёй працы.

Сёньня Чарнігаў адносяць да катэгорыі гарадоў, у якіх склалася найкрытычнейшая сытуацыя што да браку дашкольных установаў. На дадзены момант на 100 наяўных месцаў прыпадае 119 дзетак. Альтэрнатыўных садкоў з адукацыйным напрамкам практычна не існуе. У горадзе дзейнічаюць дзьве студыі разьвіцьця дзіцяці, якія маюць па 3-4 групы. Але гэтыя студыі ня могуць пашыраць дзейнасьць праз адсутнасьць памяшканьняў. Адсутнасьць неабходнай колькасьці садочкаў і альтэрнатыўных дашкольных установаў вядзе да таго, што большасьць дзяцей ня можа атрымаць дашкольную асьвету і, адпаведна, падрыхтавацца да школы.

Акрамя гэтага, у горадзе няма аніводнай дашкольнай установы, якая магла б займацца адукаваньнем групаў дзяцей з абмежаванымі магчымасьцямі. Адпаведна, такія дзеткі практычна ізаляваныя ад стасункаў з аднагодкамі і ня маюць доступу да дашкольнае асьветы.

Прааналізаваўшы дадзеную праблему, у мяне паўстала ідэя стварэньня Цэнтру разьвіцьця дзіцяці “Анёлак” як альтэрнатыўнай дашкольнай установы з элемэнтамі інклюзіўнае асьветы. Мэта Цэнтру – усебаковае разьвіцьцё дзіцяці, выхаваньне любові да бліжняга.

Цэнтар працуе на падставе праграмы “Крок за крокам” з дадаваньнем сусьветных і ўкраінскіх мэтодык з улікам адпаведнасьці ўзроставых катэгорыяў і індывідуальных асаблівасьцяў дзіцяці. У Цэнтры дзейнічае 8 дзіцячых групаў па 6 чалавек кожная, у залежнасьці ад узроставай катэгорыі. У кожнай групе займаецца 1-2 дзіцяці з абмежаванымі магчымасьцямі.

У цэнтры працуюць 8 дыпляманых пэдагогаў, зь іх 1 кандыдат пэдагагічных навук і 1 кандыдат псыхалягічных навук. Работа Цэнтру пабудаваная такім чынам, што ён зарабляе сродкі на сваю дзейнасьць самастойна. Бацькі аплачваюць заняткі, што робіць магчымай кампэнсацыю выдаткаў на арэнду і заробкі пэдагогаў.

Мы стараемся працаваць ня толькі зь дзецьмі, але і з бацькамі, дапамагаючы ім бясплатнымі кансультацыямі што да выхаваньня дзяцей. За год супрацы з намі бацькі сталі ініцыятарамі і арганізатарамі шматлікіх дзіцячых сьвятаў у Цэнтры.

Аднак ня ўсё ў нашай дзейнасьці бясхлопатна. На вялікі жаль, мы так і не атрымалі абяцанага памяшканьня ад улады на ільготных умовах. І калі нас пытаюць, ці дапамагае нам улада, мы адказваем, што прынамсі не замінае.

■





ТВАЯ ІНІЦЫЯТЫВА,
ТВОЙ ФЭСТ

# “Твой Фэст” – беларускае, сваё, сучаснае...

**Паэт і эсэіст Валерыя Кустава -- пра выйсьце беларускай культуры з “рэзэрвацыі” і прыСВОЙваньне рэчаіснасьці.**

“Твой Фэст” – ініцыятыва, што паўстала дзякуючы купцы маладых людзей, якія хацелі зрабіць штосьці добрае, беларускае і якаснае ў галіне культуры. Па сутнасьці, гэтая праца – дабрачыннасьць зь іхняга боку. Але дабрачыннасьць такая, на якую хочацца ахвяраваць свой час і свае сілы. Дзеля таго, каб маладыя беларусы даведваліся пра творцаў іхняга пакаленьня.

Арыентаваная ініцыятыва перадусім на моладзь – старшакляснікаў і студэнтаў. Існуе некалькі кірункаў дзейнасьці ініцыятывы на сёньня. Прапаганда беларускай культуры (літаратуры, музыкі, мовы, мастацтва і г.д.) сярод моладзі. Папулярызацыя маладых беларускіх гуртоў, выканаўцаў і літаратараў як са сталіцы, так і з рэгіёнаў (мы спрабуем даць пляцоўку для выказваньняў маладым галасам). Спрыяньне выхаду беларускай культуры з унутранай “рэзэрвацыі” і “прыСВОЙваньне” рэчаіснасьці.

Патлумачу, падрабязьней. Беларускасьць не інтэграваная ў штодзённую плынь жыцьця людзей. Усё беларускае знаходзіцца ў нейкай унутранай глыбокай “рэзэрвацыі”. А ў нечым правакацыйнасьць нашых імпрэзаў (ад назваў да фарматаў) змушае пра іх гаварыць, яны гучаць, бо чапляюць, у нечым нэрвуюць...

Мы шукалі тыя вобразы, тыя пэрсоны, тыя слоганы, якія б маглі дапамагчы збудаваць пазытыўны асацыятыўны шэраг у галовах маладзёнаў. Ці, прынамсі, каб разьвярэдзілі ў іх жаданьне дыскутаваць, абмяркоўваць. Шукалі разам зь імі – і знаходзілі. Варта паказваць, расказваць пра беларусаў, якія дасягнулі шмат і вядомыя далёка за межамі. Каб нават сумневу не ўзьнікала, што нашае – гэта вартае, нам ёсьць чым ганарыцца: Францыск Скарына, Ефрасіньня Полацкая... гэта зразумела – а далей? Барыс Кіт, айцец Аляксандар Надсан... Разумееце?

Яшчэ ўсе гэтыя сумневы сьведчаць пра тое, што ў нашых людзей няма аналёгіі “беларускае — сваё”, не “чужое”, ня “горшае” ці “лепшае”, а менавіта сваё. Людзям трэба “пры-своіць”










рэчаіснасьць. І таму мы ідзем да людзей у розных фарматах і формах.

У нас ёсьць сайт tvojfest.org – гэта нашая асноўная пляцоўка для дыялёгу, дыскусіяў, ажыцьцяўленьня задумаў. У нас ёсьць сацыяльныя сеткі (нашая ініцыятыва прысутнічае ў ФБ, УКантакце, у ЖЖ). Мы ладзім фэстывалі ("Літаратурныя дажынкі" і Першы фэст беларускай эўрапейскай культуры "Кахай па-беларуску, жыві па-эўрапейску"), апытанкі і прэміі ("ТОП-10 найураджайнейшых пісьменьнікаў года і іншыя), конкурсы (конкурс заявак для маладых музычных гуртоў, конкурс "Ідэя" для маладых дызайнэраў). А пасьля ўвасабляем усе нашыя ідэі ўжывую – на імпрэзах, дзе і ўзнагароджваем пераможцаў і прызёраў. Пра ўсе нашыя праекты можна пачытаць на нашым сайце. Мы адкрытыя для супрацы, заўвагаў і парадаў – зьвяртайцеся: tvojfest@gmail.com. Хачу адразу адзначыць, што ніводная нашая імпрэза не адбылася безь вялікай дапамогі, якую нам аказваюць і нашыя партнэры, старэйшыя калегі.

Да прыкладу, 6-7 сьнежня ў Менску адбыўся самы буйны наш праект – моладзевы фэст "Кахай па-беларуску, жыві па-эўрапейску!..". Ён быў названы Першым фэстам беларускай эўрапейскай лірычнай культуры. Для конкурснай праграмы "Кахай па-беларуску..." музыкі прапанавалі свае беларускамоўныя лірычныя песьні. Мы імкнуліся прадставіць як мага больш музычных жанраў – рок, поп, рэп, гіп-гоп і інш., а таксама даць магчымасьць выступіць на сталічнай сцэне маладым музыкам з Горадні, Магілёва, Полацка, Берасьця і іншых гарадоў. На музычны конкурс прыйшло больш за 50 заявак. Мы абралі 10 найлепшых гуртоў: "Дзівасіл", "Босае Сонца", "Рэха", "Акутэ", "Нака", "Невма", "Князь Мышкін" і г.д.

Другі конкурс быў абвешчаны на найлепшае творчае увасабленьне ідэі фэсту "Кахай па-беларуску, жыві па-эўрапейску". Прымаліся конкурсныя працы ў візуальным фармаце: фота, прынты, відэа. Журы атрымала каля 100 работ. Найлепшыя мы надрукавалі на кашулях і падарылі пераможцам.

У другой частцы фэсту – "Жыві па-эўрапейску..." – паэты і перакладчыкі (Алесь Разанаў, Андрэй Хадановіч і інш.) прадставілі свае вершы і пераклады найлепшых твораў сучасных эўрапейскіх аўтараў. Да слова, пераклады швэдзкага нобэлеўскага ляўрэата Тумаса Транстромэра на нашым фэсьце чытаў амбасадар Швэцыі Стэфан Эрыксан.

Мы шмат працавалі праз сацыяльныя сеткі, каб прыцягнуць моладзь з рэгіёнаў – тых, якія ня маюць дачыненьня да беларускасьці. Бо асноўнымі прынцыпамі, якімі кіруецца (спрабуе кіравацца) ініцыятыва "Твой Фэст" ёсьць: беларускае, сваё, сучаснае, моладзевае, якаснае, сапраўднае, вартае...

Я вельмі спадзяюся, што ініцыятыва "Твой Фэст" стане яшчэ адным трамплінам, па якім беларускія дзяўчаты і хлопцы змогуць пераляцець зь Мінска ў Менск. І яшчэ мне вельмі хочацца верыць, што менавіта такія праекты хоць крышку паспрыяюць таму, каб беларускай моладзь бачыла нагоды заставацца тут, у Беларусі. І бачыла шляхі самавыяўленьня менавіта тут, у сябе дома.

■

**Валерыя Кустава – паэт, эсэіст, ляўрэат прэміі "Залаты апостраф" у галіне паэзіі, аўтар трох кніг, удзельнік шматлікіх міжнародных фэстаў і праектаў.**

# Прававое рэгуляваньне дзейнасьці некамэрцыйных арганізацыяў:

## тыповыя пытаньні

Вольга Смалянка

**У рубрыцы "Кансультацыя" гэтага нумару часопіса мы пачалі агляд найбольш тыповых пытаньняў што да прававога рэгуляваньня дзейнасьці некамэрцыйных арганізацыяў. Сьпіс пытаньняў далёка ня поўны. Аднак у наступных выпусках часопіса мы плянуем працягнуць гэтую практыку.**



**За кошт якіх сродкаў у асноўным існуюць некамэрцыйныя арганізацыі?**

Усе некамэрцыйныя арганізацыі могуць існаваць за кошт ахвяраваньняў. Пры гэтым ахвяраваньні можна ўмоўна падзяліць на наступныя:

. Ахвяраваньні, атрыманыя ад беларускіх грамадзян. Такія ахвяраваньні часта завуць бязвыплатнымі ўнёскамі, бо такой фармулёўкі ад некамэрцыйных арганізацыяў (за выключэньнем рэлігійных) патрабуе большасьць банкаў. Асноўнымі нарматыўнымі актамі, якія рэгулююць пытаньне атрыманьня ахвяраваньняў некамэрцыйнымі арганізацыямі, зьяўляюцца Грамадзянскі кодэкс, а таксама Падатковы кодэкс (Асаблівая частка) Рэспублікі Беларусь.

2. Грашовыя сродкі і іншая маёмасьць, якую атрымліваюць ад беларускіх юрыдычных асобаў, -- бязвыплатная (спонсарская) дапамога. Асноўным нарматыўным актам, які рэгулюе пытаньні атрыманьня бязвыплатнай (спонсарскай) дапамогі, апроч вышэйпералічаных, зьяўляецца Ўказ прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 ліпеня 2005 г. №300 "Аб прадстаўленьні і выкарыстаньні бязвыплатнай (спонсарскай) дапамогі".

3. Грашовыя сродкі і іншая маёмасьць, якую атрымліваюць ад замежных грамадзян і юрыдычных асобаў, а таксама ад міжнародных арганізацыяў, замежных дзяржаваў і асобаў без грамадзянства, – замежная бязвыплатная дапамога. Да замежнай бязвыплатнай дапамогі беларускае заканадаўства прыраўноўвае таксама грашовыя сродкі і іншую маёмасьць, атрыманую ад ананімаў. Замежнай бязвыплатнай дапамогай, паводле заканадаўства, зьяўляюцца ў тым ліку беспрацэнтныя пазыкі, унёскі замежных заснавальнікаў (сябраў) беларускіх некамэрцыйных арганізацыяў. А таксама сродкі (перадаюцца ў межах зацьверджаных каштарысаў), дадзеныя арганізацыям і фізычным асобам Рэспублікі Беларусь. Асноўнымі нарматыўнымі актамі, якія рэгулююць пытаньні атрыманьня, рэгістрацыі і выкарыстаньня замежнай бязвыплатнай дапамогі, зьяўляюцца Дэкрэт прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 28 лістапада 2003 г. №24 "Аб атрыманьні і выкарыстаньні замежнай бязвыплатнай дапамогі", а таксама Інструкцыя аб парадку рэгістрацыі, атрыманьня і выкарыстаньня замежнай бязвыплатнай дапамогі, зацьверджанай Пастановай Упраўленьня справамі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 30 чэрвеня 2004 г. №7. Замежная бязвыплатная дапамога, якую атрымліваюць некамэрцыйныя арганізацыі, незалежна ад яе памеру, падлягае абавязковай рэгістрацыі ў Дэпартамэнце па гуманітарнай дзейнасьці Ўпраўленьня справамі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

4. У выпадку, калі замежная дапамога даецца па праектах, ухваленых прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь, а таксама ў адпаведнасьці зь існымі для Рэспублікі Беларусь міждзяржаўнымі дамовамі, такая дапамога будзе міжнароднай тэхнічнай дапамогай. Міжнародная тэхнічная дапамога – адзін зь відаў дапамогаў, што бязвыплатна даецца Рэспубліцы Беларусь донарамі міжнароднай тэхнічнай дапамогі (замежная дзяржава, міжнародная арганізацыя або ўпаўнаважаны ім суб'ект) для аказаньня падтрымкі ў сацыяльных і эканамічных пераўтварэньнях, ахове навакольнага асяродзьдзя, ліквідацыі наступстваў катастрофы




**«Усе некамэрцыйныя арганізацыі могуць існаваць за кошт ахвяраваньняў».**

інфраструктуры шляхам правядзеньня дасьледаваньняў, навучаньня, абмену адмыслоўцамі, асьпірантамі і студэнтамі, перадачы досьведу і тэхналёгіяў, грашовых сродкаў, пастаўкі абсталяваньня і іншых тавараў (маёмасьці) па ўхваленых праектах (праграмах) міжнароднай тэхнічнай дапамогі. А таксама ў форме арганізацыі і (або) правядзеньня сэмінараў, канфэрэнцыяў, іншых грамадзкіх абмеркаваньняў. Асноўнымі нарматыўнымі актамі, якія рэгулююць пытаньні міжнароднай тэхнічнай дапамогі, зьяўляюцца: Указ прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 22 кастрычніка 2003 г. №460 "Аб міжнароднай тэхнічнай дапамозе, якая данцца Рэспубліцы Беларусь"; Пастанова Рады міністраў Рэспублікі Беларусь ад 21 лістапада 2003 г. №1522 "Аб некаторых мерах па рэалізацыі Ўказу Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 22 кастрычніка 2003 г. №460"; Пастанова Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь ад 19 сьнежня 2003 г. №246 "Аб зацьверджаньні Палажэньня аб парадку рэгістрацыі праектаў (праграмаў) міжнароднай тэхнічнай дапамогі ў Рэспубліцы Беларусь, а таксама кантролю за іх рэалізацыяй"; Пастанова Рады 15 верасьня 2005 г. №1027 "Аб некаторых мерах па рэалізацыі Ўказу прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 17 жніўня 2005 г. №382". У адпаведнасьці з дадзенымі нарматыўнымі актамі праводзіцца ўхваленьне і рэгістрацыя міжнароднай тэхнічнай дапамогі.

***100 базавых велічыняў неабходна для стварэньня і дзейнасьці мясцовых фондаў***

Распаўсюджанай, але, як правіла, не асноўнай, крыніцай фармаваньня грашовых сродкаў грамадзкіх аб'яднаньняў зьяўляюцца ўступныя і сяброўскія ўнёскі. Неабходна адзначыць, што Падатковы кодэкс Рэспублікі Беларусь (Асаблівая частка) перадугледжвае, што ўступныя і сяброўскія ўнёскі не ўключаюцца ў склад пазарэалізацыйных прыбыткаў, то бок не абкладаюцца падаткам на прыбытак, у памеры, перадугледжаным статутамі гэтых грамадзкіх аб'яднаньняў. На практыцы на дадзены момант падатковыя органы прыраўноўваюць рашэньне ўпаўнаважанага органа аб'яднаньня аб усталяваньні памеру сяброўскага ўнёску да памеру, усталяванага ў статуце гэтага аб'яднаньня (рашэньне мае быць афармлена пратаколам, павінен таксама весьціся сьпіс сябраў аб'яднаньня). Аднак заканадаўча дадзенае становішча не замацаванае. Зыходзячы з гэтага мы рэкамэндуем грамадзкім аб'яднаньням усталёўваць памер уступных і сяброўскіх унёскаў непасрэдна ў статуце (варыянтам для грамадзкіх аб'яднаньняў можа стацца ўсталяваньне лімітавых памераў такіх унёскаў "ад" і "да").

Абавязковай крыніцай існаваньня фондаў мусіць быць маёмасьць, перададзеная фонду ягонымі заснавальнікамі (заснавальнікам). Указ прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 ліпеня 2005 г. №302 "Аб некаторых мерах па ўпарадкаваньні дзейнасьці фондаў" усталёўвае мінімальны памер маёмасьці, неабходны для стварэньня і дзейнасьці фонду, які складае: 100 базавых велічыняў -- для мясцовых фондаў; 1000 базавых велічыняў -- для рэспубліканскіх і міжнародных фондаў. Пры стварэньні фонду кошт ягонай маёмасьці вызначаецца коштам маёмасных унёскаў заснавальнікаў (заснавальніка) у грашовай і неграшовай формах, пры дзейнасьці фонду -- коштам чыстых актываў фонду. Пры гэтым фонд можа быць ліквідаваны, калі па сканчэньні каляндарнага года кошт маёмасьці фонду стане меншы за мінімальны памер, неабходны для стварэньня і дзейнасьці фонду. У гэтым выпадку рэгістравальным органам выносіцца пісьмовае папярэджаньне з пазначэньнем тэрміну, на працягу якога кошт маёмасьці фонду павінен быць даведзены да мінімальнага памеру, неабходнага для стварэньня і дзейнасьці фонду. У гэты пэрыяд фонд павінен пры-

няць меры па давядзеньні кошту маёмасьці фонду да мінімальнага памеру, неабходнага для стварэньня і дзейнасьці фонду. Калі па сканчэньні пазначанага тэрміну кошт маёмасьці фонду застаецца меншы за мінімальны памер, неабходны для стварэньня і дзейнасьці фонду, лічыцца, што маёмасьці фонду недастаткова для ажыцьцяўленьня яго мэтаў, а імавернасьць атрыманьня неабходнай маёмасьці немагчымая.

Абавязковай крыніцай існаваньня ўстановы зьяўляецца фінансаваньне заснавальніка (уласьніка маёмасьці) гэтай установы. Пры гэтым Грамадзянскі кодэкс вызначае, што ўласьнік маёмасьці фінансуе ўстанову цалкам ці часткова, не вызначаючы памер гэтай “часткі”.

**Ці могуць некамэрцыйныя арганізацыі ажыцьцяўляць камэрцыйную дзейнасьць?**

У беларускім заканадаўстве выкарыстоўваецца паняцьце "прадпрымальніцкая дзейнасьць". Азначэньне прадпрымальніцкай дзейнасьці дае Грамадзянскі кодэкс Рэспублікі Беларусь. Паводле дадзенага нарматыўнага акту, прадпрымальніцкая дзейнасьць – гэта самастойная дзейнасьць юрыдычных і фізычных асобаў, якая ажыцьцяўляецца імі ў грамадзянскім кірунку ад свайго імя, на сваю рызыку і пад сваю маёмасную адказнасьць і скіраваная на сыстэматычнае атрыманьне прыбытку ад карыстаньня маёмасьцю, продажу рэчаў, выраблены, перапрацаваных або набытых пазначанымі асобамі для продажу. А таксама ад выкананьня прац або аказаньня паслуг, калі гэтыя працы або паслугі прызначаюцца для рэалізацыі іншым асобам і не выкарыстоўваюцца для ўласнага спажываньня. Да прадпрымальніцкай дзейнасьці ня мае дачыненьня дзейнасьць па аказаньні паслуг у сфэры аграэкатурызму.

Некамэрцыйныя арганізацыі могуць ажыцьцяўляць прадпрымальніцкую дзейнасьць толькі адпаведна неабходнасьці для іх статутных мэтаў, дзеля якіх яны створаныя, адпаведна прадмету дзейнасьці некамэрцыйных арганізацыяў альбо неабходнасьці для выкананьня дзяржаўна значных задачаў, перадугледжаных у іх статутах, калі яна адпавядае гэтым задачам і прадмету дзейнасьці дадзеных арганізацыяў. Грамадзянскі кодэкс вызначае, што для асобных формаў некамэрцыйных арганізацыяў заканадаўчымі актамі могуць быць акрэсьленыя патрабаваньні, якія перадугледжваюць іх права на занятак прадпрымальніцкай дзейнасьцю толькі пры дапамозе стварэньня камэрцыйных арганізацыяў і (або) удзелу ў іх. Такое патрабаваньне ўвёў у 2005 годзе Закон Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях". Такім чынам, грамадзкія аб'яднаньні ня могуць ажыцьцяўляць прадпрымальніцкую дзейнасьць самастойна.




**«Некамэрцыйныя арганізацыі могуць ажыцьцяўляць прадпрымальніцкую дзейнасьць толькі адпаведна неабходнасьці для іх статутных мэтаў»**

Забарона на ажыцьцяўленьне самастойнай прадпрымальніцкай дзейнасьці ўсталяваная таксама для асацыяцыяў (саюзаў) – аб'яднаньняў юрыдычных асобаў. Грамадзянскі кодэкс усталёўвае, што калі па рашэньні ўдзельнікаў на асацыяцыю (саюз) ускладаецца вядзеньне прадпрымальніцкай дзейнасьці, такая асацыяцыя (саюз) ператвараецца ў гаспадарчую суполку або таварыства ў парадку, перадугледжаным заканадаўствам, альбо можа стварыць для ажыцьцяўленьня прадпрымальніцкай дзейнасьці гаспадарчае таварыства або ўдзельнічаць у такім таварыстве.

Беларускае заканадаўства акрэсьлівае таксама выпадкі выключэньня з забароны на ажыцьцяўленьне самастойнай прадпрымальніцкай дзейнасьці грамадзкімі аб'яднаньнямі і асацыяцыямі (саюзамі).

Указам прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 3 лістапада 2011 г. № 497 "Аб аказаньні падтрымкі арганізацыям фізычнай культуры і спорту" ўсталявана, што спартовыя арганізацыі, створаныя ў форме грамадзкіх аб'яднаньняў, асацыяцыяў, саюзаў, маюць права ажыцьцяўляць без стварэньня камэрцыйных арганізацыяў і (або) удзелу ў іх наступныя віды прадпрымальніцкай дзейнасьці: дзейнасьць у сфэры спорту; турыстычная дзейнасьць; оптавы і розьнічны гандаль; рэкламная дзейнасьць; здаваньне ў арэнду ўласнай нерухомай маёмасьці; іншая дзейнасьць па арганізацыі адпачынку і забаваў; дзейнасьць іншага сухаземнага транспарту, які не падпарадкоўваецца раскладу; паслугі аўтамабільных стаянак.

Закон Рэспублікі Беларусь ад 9 студзеня 2002 г. № 90-З "Аб абароне правоў спажыўцоў" таксама перадугледжвае магчымасьць

атрыманьня прыбытку грамадзкімі аб'яднаньнямі спажыўцоў. Пры задавальненьні позвы, зьвязанай з парушэньнем правоў спажыўца (калі з позвай аб абароне правоў спажыўца выступае грамадзкае аб'яднаньне спажыўцоў) пазначанаму аб'яднаньню пералічваецца дзесяць адсоткаў сумы штрафу за незахаваньне добраахвотнага парадку задавальненьня патрабаваньняў спажыўца з вытворцы (прадаўца, пастаўшчыка, прадстаўніка, выканаўцы, рамонтнай арганізацыі), прысуджанай судом на карысьць спажыўца.

**Ці абкладаюцца бязвыплатна атрыманыя некамэрцыйнай арганізацыяй грашовыя сродкі падаткам на прыбытак?**

Падатковы кодэкс Рэспублікі Беларусь (Асаблівая частка) усталёўвае, што ў грамадзкіх аб'яднаньняў у склад пазарэалізацыйных прыбыткаў не ўключаюцца, то бок не абкладаюцца падаткам на прыбытак, сумы бязвыплатна атрыманых грашовых сродкаў пры ўмове выкарыстаньня гэтых грашовых сродкаў па мэтавым прызначэньні. А ў выпадку, калі мэтавае прызначэньне перадавальным бокам не пазначанае, – на выкананьне задачаў, акрэсьленых статутамі гэтых аб'яднаньняў. Такім чынам, грашовыя сродкі, скарыстаныя не па мэтавым прызначэньні, падлягаюць падаткаабкладаньню ў агульным парадку. Заканадаўства выразна перадугледжвае, што калі мэтавае прызначэньне грашовых сродкаў ня вызначанае перадаўцам, яны выкарыстоўваюцца толькі на выкананьне задачаў, акрэсьленых статутамі грамадзкіх аб'яднаньняў. Такім чынам, калі грамадзкае аб'яднаньне плянуе выкарыстаць добраахвотнае ахвяраваньне (бязвыплатны ўнёсак) не на статутныя задачы, а, напрыклад, на выплату заробкаў супрацоўнікам, аплату арэнды або камунальных паслуг, ахвярадаўца павінен вызначыць магчымасьць выкарыстаньня свайго ахвяраваньня на пазначаныя мэты. Мэтавае прызначэньне ахвяраваньня (бязвыплатнага ўнёску) можа быць пазначанае ў заяве (лісьце) ахвярадаўцы, складзенага ў вольнай форме.

Дэкрэт прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 28 лістапада 2003 г. № 24 "Аб атрыманьні і выкарыстаньні замежнай бязвыплатнай дапамогі" перадугледжвае, што замежная бязвыплатная дапамога, накіраваная на мэты, перадугледжаныя пазначаным дэкрэтам, можа быць вызваленая ў тым ліку ад падатку на прыбытак Упраўленьнем справамі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь па ўзгадненьні з прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь. Просьба занесьці на разгляд Упраўленьня справамі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь пытаньне аб вызваленьні атрыманых грашовых сродкаў ад падатку на прыбытак пазначаецца атрымальнікам замежнай бязвыплатнай дапамогі ў заяве аб рэгістрацыі такой дапамогі. Для рэгістрацыі замежнай бязвыплатнай дапамогі атрымальнікам дапамогі павінен падавацца ліст падтрымкі профільнага міністэрства або ведамства. Рэкамэндуем таксама па магчымасьці пазначаць у дадзеным лісьце пра неабходнасьць вызваленьня ад падатку на прыбытак (іншых магчымых падаткаў і мытных збораў/мыт) дапамогі, што атрымліваецца.

Указ прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 22 кастрычніка 2003 г. № 460 "Аб міжнароднай тэхнічнай дапамозе, якая даецца Рэспубліцы Беларусь" перадугледжвае, што грашовыя сродкі, у тым ліку ў замежнай валюце, іншая маёмасьць (уключаючы датычную да асноўных фондаў, таварна-матэрыяльных каштоўнасьцяў і нематэрыяльных актываў), атрыманыя ў межах міжнароднай тэхнічнай дапамогі, не разглядаюцца ў якасьці аб'екта падаткаабкладаньня, у тым ліку па падатку на прыбытак. Такім чынам, пры праходжаньні праекту ўсёй працэдуры рэгістрацыі і ўхваленьня ў якасьці міжнароднай тэхнічнай дапамогі такая дапамога ня будзе абкладацца падаткам на прыбытак.




**«...спартовыя арганізацыі, створаныя ў форме грамадзкіх аб'яднаньняў, маюць права ажыцьцяўляць без стварэньня камэрцыйных арганізацыяў наступныя віды прадпрымальніцкай дзейнасьці: дзейнасьць у сфэры спорту, паслугі аўтамабільных стаянак і г.д.»**

**Ці распаўсюджваюцца на бязвыплатнае карыстаньне памяшканьнем нормы ўказа пра бязвыплатную (спонсарскую) дапамогу?**

Указ прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 ліпеня 2005 г. № 300 "Аб прадстаўленьні і выкарыстаньні бязвыплатнай (спонсарскай) дапамогі" (са зьменамі і дадаткамі па стане на 28 лютага 2011 г.) перадугледжвае, што бязвыплатная (спонсарская) дапамога прадстаўляецца беззваротна на аснове добраахвотнасьці і свабоды выбару яе мэтаў у адпаведнасьці з дадзеным Указам. Такім чынам, прадстаўленьне памяшканьня ў бязвыплатнае карыстаньне беларускім юрыдыч-

ным асобам або індывідуальным прадпрымальнікам ня можа разглядацца як прадстаўленьне бязвыплатнай (спонсарскай) дапамогі.

**Ці абавязковая наяўнасьць у некамэрцыйнай арганізацыі пасады бугальтара?**

Закон Рэспублікі Беларусь ад 18 кастрычніка 1994 г. № 3321-XII "Аб бугальтарскім уліку і справаздачнасьці" (са зьменамі і дадаткамі па стане на 26 сьнежня 2007 г.) усталёўвае, што кіраўніцтва бугальтарскім улікам у арганізацыі ажыцьцяўляе галоўны бугальтар, пры адсутнасьці ў штаце пасады галоўнага бугальтара – бугальтар, галоўны бугальтар арганізацыі, якая аказвае паслугі па вядзеньні бугальтарскага ўліку і справаздачнасьці, або спэцыяліст-бугальтар, што зьяўляецца індывідуальным прадпрымальнікам.

Пры гэтым законам дазволенае выкананьне функцыяў бугальтара кіраўніком толькі ў адной арганізацыйна-прававой форме юрыдычнай асобы – камэрцыйнай арганізацыі: унітарным прадпрыемстве.

Такім чынам, вышэйпазначаны закон перадугледжвае толькі тры магчымасьці вядзеньня бугальтарскага ўліку ў некамэрцыйнай арганізацыі.

1) Уключэньне пасады галоўнага бугальтара ў штатны расклад арганізацыі (адпаведна, прыём па працоўнай дамове ці кантракце асобы на працу з адпаведнай выплатай заработнай платы).

2) Заключэньне дамовы са спэцыялізаванай арганізацыяй, якая аказвае паслугі па вядзеньні бугальтарскага ўліку і справаздачнасьці. На дадзены момант гэты варыянт пачынае атрымліваць усё большы распаўсюд у асяродку некамэрцыйных арганізацыяў дзякуючы сваёй адноснай таннасьці і адсутнасьці неабходнасьці афармленьня на працу бугальтара і, адпаведна, дакумэнтаў па асабістым складзе, ахове працы, калі ў арганізацыі няма іншых штатных супрацоўнікаў.

3) Заключэньне дамовы са спэцыялістам-бугальтарам, які зьяўляецца індывідуальным прадпрымальнікам.

На практыцы ў некамэрцыйных арганізацыях распаўсюджанае ўскладаньне функцыяў бугальтара на бязвыплатнай аснове. Аднак з пункту гледжаньня заканадаўства гэта парушэньне. Распаўсюджаныя таксама выпадкі прыёму на працу бугальтара з выданьнем загаду пра тое, што выплата заробку будзе адбывацца пасьля пачатку ажыцьцяўленьня дзейнасьці арганізацыяй.




**«Абавязковай крыніцай існаваньня фондаў мусіць быць маёмасьць, перададзеная фонду ягонымі заснавальнікамі (заснавальнікам»)**

Па законе галоўны бугальтар прызначаецца на пасаду і вызваляецца ад пасады кіраўніком арганізацыі ў адпаведнасьці зь яе статутам.

На пасаду галоўнага бугальтара прызначаецца асоба, якая мае вышэйшую спэцыяльную адукацыю, а ў выключных выпадках -- асоба, што ня мае вышэйшай спэцыяльнай адукацыі, пры наяўнасьці ў яе адукацыі і стажу працы па спэцыяльнасьці бугальтара ня менш за пяць гадоў.

**Ці могуць замежныя грамадзяне быць сябрамі грамадзкіх аб’яднаньняў?**

Закон Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях" ад 4 кастрычніка 1994 г. № 3254-XII (са зьменамі і дадаткамі па стане на 8 лістапада 2011 г.) усталёўвае, што замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства могуць уступаць у дзейныя грамадзкія аб'яднаньні, калі гэта перадугледжанае іх статутамі. Такое ж палажэньне ўтрымлівае Закон Рэспублікі Беларусь ад 4 студзеня 2010 г. № 105-З "Аб прававым статусе замежных грамадзянаў і асобаў без грамадзянства ў Рэспубліцы Беларусь". Такім чынам, палажэньне пра магчымасьць сяброўства ў грамадзкіх аб'яднаньнях замежных грамадзянаў павіннае ўтрымлівацца ў статуце гэтага аб'яднаньня.

Неабходна памятаць, што ў адпаведнасьці з Інструкцыяй аб парадку рэгістрацыі, атрыманьні і выкарыстаньні замежнай бязвыплатнай дапамогі, зацьверджанай Пастановай Упраўленьня справамі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 30 чэрвеня 2004 г. № 7 (са зьменамі і дадаткамі па стане на 26 верасьня 2011 г.) уступныя і сяброўскія ўнёскі сябраў грамадзкіх аб'яднаньняў – замежных грамадзянаў належаць да замежнай бязвыплатнай дапамогі, адпаведна, падлягаюць рэгістрацыі ва ўсталяваным парадку.

**Ці мусяць некамэрцыйныя арганізацыі паведамляць у дзяржаўныя органы пра зьмену юрыдычнага адрасу? Якую адказнасьць яны нясуць за непаведамленьне пра такую зьмену?**

Беларускае заканадаўства замацоўвае за некамэрцыйнымі арганізацыямі абавязак апавяшчаць розныя дзяржаўныя органы пра зьмену юрыдычнага адрасу. Такі абавязак наўпрост усталяваны наступнымі нарматыўнымі актамі.

1. Закон Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях"

усталёўвае, што грамадзкае аб'яднаньне, саюз абавязаныя ў выпадку зьмены юрыдычнага адрасу грамадзкага аб'яднаньня, саюза (месца знаходжаньня кіроўнага органа) у месячны тэрмін падаць у адпаведны рэгістравальны орган усе дакумэнты, неабходныя для дзяржаўнай рэгістрацыі зьменаў і (або) дадаткаў, занесеных у статут грамадзкага аб'яднаньня, саюза.

2. Дэкрэт прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 16 студзеня 2009 г. № 1 "Аб дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі (спыненьні дзейнасьці) суб'ектаў гаспадараньня" (са зьменамі і дадаткамі па стане на 27 чэрвеня 2011 г.) перадугледжвае, што ў выпадку зьмены месцазнаходжаньня ўстанова, асацыяцыя (за выключэньнем асацыяцыяў грамадзкіх аб'яднаньняў) цягам дзесяці працоўных дзён з дня зьмены месцазнаходжаньня абавязаныя накіраваць у рэгістравальны орган апавяшчэньне па ўсталяванай форме.

3. Указ прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 ліпеня 2005 г. № 302 "Аб некаторых мерах па ўпарадкаваньні дзейнасьці фондаў" (са зьменамі і дадаткамі па стане на 11 чэрвеня 2009 г.) усталёўвае, што фонд у месячны тэрмін абавязаны занесьці ў статут адпаведныя зьмены і падаць іх ва ўсталяваным парадку для дзяржаўнай рэгістрацыі ў выпадку зьмены месца знаходжаньня фонду (кіроўнага органа фонду).

Заканадаўства таксама перадугледжвае абавязковае апавяшчэньне пра зьмену юрыдычнага адраса некамэрцыйнай арганізацыяй любой арганізацыйна-прававой формы:

- падатковы орган у тэрмін не пазьнейшы за 10 дзён з дня такой зьмены (п. 1.9.5 арт. 22 Падатковага кодэкса);

- Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва цягам 5 працоўных дзён (абз. 10 п. 26 Палажэньня аб выплаце абавязковых страхавых унёскаў, унёскаў на прафэсійнае пэнсійнае страхаваньне і іншых плацяжоў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, зацьверджанай Указам прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 16.01.2009 № 40);

- РУП "Белдзяржстрах" у месячны тэрмін з дня зьмены (п. 16 Палажэньня аб рэгістрацыі (перарэгістрацыі) на Беларускім рэспубліканскім унітарным страхавым прадпрыемстве "Белдзяржстрах" страхавальнікаў па абавязковым страхаваньні ад няшчасных выпадкаў на вытворчасьці і прафэсійных захворваньняў, зацьв. Пастановай Саўміна ад 10.10.2003 № 1294 (у рэдакцыі пастановы Рады Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 23.09.2011 № 1278);



«...кіраўніцтва бугальтарскім улікам у арганізацыі ажыцьцяўляе галоўны бугальтар»

- ліцэнзавальны орган у месячны тэрмін для занясеньня ў ліцэнзію зьмен і (або) дадаткаў (п. 66 Палажэньня аб ліцэнзаваньні асобных відаў дзейнасьці, зацьв. Указам прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 01.09.2010 № 450).

Што да адказнасьці за неапавяшчэньне пра зьмену юрыдычнага адрасу, то ў Кодэксе Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэньнях раней быў артыкул (23.19), які наўпрост перадугледжваў адказнасьць за непадаваньне службовай асобай ва ўсталяваны тэрмін інфармацыі пра такую зьмену органу, што праводзіць рэгістрацыю. Аднак Законам Рэспублікі Беларусь ад 28 сьнежня 2009 г. № 98-З "Аб занясеньні зьменаў і дадаткаў у некаторыя кодэксы Рэспублікі Беларусь па пытаньнях крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасьці" дадзены артыкул быў выключаны з КаАП. На падставе гэтага многія арганізацыі робяць выснову, што адказнасьці за неапавяшчэньне пра зьмену юрыдычнага адрасу заканадаўства не ўтрымлівае. Аднак гэта няслушна.

Так, за непадаваньне зьвестак пра зьмену месцазнаходжаньня ў інспэкцыю Міністэрства па падатках і зборах да арганізацыі ўжываецца адміністрацыйная адказнасьць, усталяваная артыкулам 13.8 КаАП: непрадстаўленьне ва ўсталяваны тэрмін платнікам у падатковы орган дакумэнтаў і іншых зьвестак, якія яны абавязаныя падаваць у адпаведнасьці з падатковым заканадаўствам для ажыцьцяўленьня падатковага кантролю, цягне накладаньне штрафу ў памеры дзьвюх базавых велічыняў з павелічэньнем яго на адну базавую велічыню за кожныя тры каляндарныя дні пратэрміноўкі прадстаўленьня дакумэнтаў і іншых зьвестак, але ня больш за трыццаць базавых велічыняў.

Неапавяшчэньне арганізацыяй пра зьмену юрыдычнага адраса рэгістравальнага органа, ФСАН і РУП "Белдзяржстарх" зьяўляецца падставай для ўжываньня арт. 23.16 КаАП і цягне накладаньне штрафу ў памеры ад 4 да 20 базавых велічыняў.

Для грамадзкіх аб'яднаньняў і фондаў неапавяшчэньне пра зьмену юрыдычнага адрасу можа таксама пацягнуць вынясеньне рэгістравальным органам пісьмовага папярэджаньня. ■

# CONTENTS




Ambassade van het
Koninkrijk der Nederlanden

# ПРАГРАМА МАЛЫХ ПРАЕКТАЎ MATRA/KAP

Matra – праграма Міністэрства Замежных Справаў Нідэрляндаў пры Амбасадзе Каралеўства Нідэрляндаў у Варшаве.

Каб адпавядаць умовам Matra/KAP, праект павінен якім-небудзь чынам умацоўваць грамадзянскую супольнасьць і рабіць яе больш разнастайнай.

Прыкладамі такой актыўнасьці могуць быць:

- ініцыятывы дзеля ўмацаваньня вяршынства закона, абароны правоў чалавека, нацыянальных меншасьцяў, аховы прыроды, грамадзкага ўдзелу ў мясцовым самакіраваньні і г.д.;
- ініцыятывы дзеля ўмацаваньня няўрадавых арганізацый (НДА);
- ініцыятывы дзеля ўмацаваньня ролі незалежных СМІ ў беларускім грамадзтве, ўкараненьні наватарскіх ідэяў у адукацыі й мастацтве, якія ў сваю чаргу будуць садзейнічаць працэсам сацыяльнай трансфармацыі і станаўленьня дэмакратыі.

Заяўкі на атрыманьне грантаў Matra/KAP зь Беларусі трэба дасылаць на адрас: war-matra@minbuza.nl у Амбасаду Нідэрляндаў у Варшаве. Амбасада ўпаўнаважаная вылучаць гранты максымум да 15, 000 Euro.

Беларускія заяўнікі, зацікаўленыя ў грантах Matra/KAP, могуць зьвяртацца ў Амбасаду Каралеўства Нідэрляндаў у Варшаве ў любы час і падаваць заяўкі ў адвольнай форме.

Адрас :
Royal Netherlands Embassy
Matra/KAP
10, Kawalerii St.
00-468 Warsaw, Poland
http://www.nlembassy.pl

Contact person:
Mr. Lukasz Byrski (war-matra@minbuza.nl)

Інфармацыю па праграме Matra/KAP у РБ можна таксама атрымаць у Консульстве Каралеўства Нідэрлянды ў Менску ў сп. Вінакурава А. праз тэлефон (017) 262 53 23, ці электронную пошту nlconsulate

# Хочаш быць пачутым?




# Лістуй!